ЗВЯЗДА

10 ліпеня 1996 г. серада, № 174 (22977)

● выдаецца са жніўня 1917 г. ● БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ● цана 1000 рублёў

# РОЗГАЛАС

*Беларускаму паэту*
*Някляеву У. П.*

Шаноўны Уладзімір Пракопавіч!

Віншую Вас, вядомага беларускага паэта, з 50-годдзем з дня нараджэння.

Як прызнаны творца нацыянальнай паэзіі Вы шчодра аддаяце свой талент беларускаму народу, сілай мастацкага слова выхоўваеце ў падрастаючым пакаленні любоў і пашану да нашай Айчыны.

Жадаю Вам моцнага здароўя і творчага плёну. Няхай Ваша паэтычная зорка і надалей ярка гарыць на небасхіле беларускага мастацтва.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр ЛУКАШЭНКА.**
9 ліпеня 1996 г.

## АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА СУСТРАКАЕ ДВУХГОДДЗЕ СВАЙГО ПРЭЗІДЭНЦТВА НА ПРАЦОЎНЫМ ПАСТУ

**Двухгоддзе выбрання на пасаду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка сустракае на працоўным пасту.**

Як паведаміла прэс-служба кіраўніка дзяржавы, раніцай 10 ліпеня ён сустрэнецца з кіраўнікамі паўднёвакарэйскай кампаніі ДЭУ, аднаго з лідэраў на сусветным рынку радыёэлектронікі. Размова пойдзе аб расшырэнні ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва паміж гэтай фірмай і беларускімі прадпрыемствамі, у прыватнасці, з аб'яднаннем «Гарызонт». Днём Прэзідэнт краіны прыме ўдзел у мерапрыемствах па здачы дома жыллёва-будаўнічага кааператыва «Зенітчык» у Мінску, увод якога наўрад ці быў бы магчымы без яго дзейснай дапамогі. Аляксандр Лукашэнка мае намер там жа, ва Уруччы, абмеркаваць з ваеннаслужачымі і членамі іх сем'яў новыя шляхі радыкальнага вырашэння праблемы жылля для тых, хто прысвяціў сваё жыццё служэнню Айчыне.

Затым адбудзецца сустрэча кіраўніка дзяржавы са Старшынёй Дзяржаўнай думы Расіі Генадзем Селязнёвым, дзе будуць разгледжаны вынікі і перспектывы далейшай інтэграцыі Беларусі і Расіі.

Вечарам таго ж «юбілейнага» дня Прэзідэнт звернецца з пажаданнямі на дарогу да нацыянальнай зборнай каманды Беларусі, якая адпраўляецца на Алімпійскія гульні ў Злучаныя Штаты Амерыкі.

**БЕЛТА.**

## СІТУАЦЫЯ НА РЫНКУ ПРАЦЫ КРЫХУ ПАЛЕПШЫЛАСЯ: ЛЕТА

**Лета, як традыцыйны час спаду дзелавой актыўнасці даволі істотна паўплывала на тэмпы росту беспрацоўя на Беларусі — за чэрвень гэты непрыемны статус атрымаў толькі 981 чалавек.**

Адпаведна, агульная колькасць зарэгістраваных у Дзяржаўнай службе занятасці насельніцтва беспрацоўных павялічылася да 176.080, што складае прыкладна 3,2 працэнта ад усяго працаздольнага насельніцтва краіны.

Вельмі станоўчым падаецца і той факт, што за першы летні месяц крыху палепшылася сітуацыя на рынку працы. Так, калі на канец вясны на адно вакантнае месца ў сярэднім па Беларусі прыходзілася па 11,1 прэтэндэнтаў, то сёння — 10,7. Па-ранейшаму найбольш напружаная сітуацыя з працаўладкаваннем на Міншчыне (19 беспрацоўных на адну вакансію) і ў Заходняй Беларусі — на Брэстчыне (18,9 чалавек) і Гродзеншчыне (16,2). Крыху меншыя гэтыя лічбы на Віцебшчыне (12,8), Гомельшчыне (12,0) і Магілёўшчыне (10,4).

Калі верыць даным службы занятасці, лягчэй за ўсё знайсці працу ў сталіцы — тут на адно свабоднае месца прыходзіцца ўсяго 3,3 прэтэндэнта.

**Сяргей ГРЫБ.**

## СЁННЯ ПАЧЫНАЕЦЦА ВІЗІТ ДЭЛЕГАЦЫІ ДЗЯРЖАЎНАЙ ДУМЫ РАСІІ Ў БЕЛАРУСЬ

**10-11 ліпеня праходзіць афіцыйны візіт у Рэспубліку Беларусь дэлегацыі Дзяржаўнай Думы Расіі на чале з яе кіраўніком Генадзем Селязнёвым.**

Гэта візіт расійскіх парламентарыяў у адказ на красавіцкі афіцыйны візіт дэлегацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь на чале з Сямёнам Шарэцкім у Маскву. У састаў расійскай дэлегацыі ўваходзяць вядомыя парламентарыі Уладзімір Мядзведзеў (кіраўнік дэпутацкай групы «Расійскія рэгіёны»), Мікалай Рыжкоў (кіраўнік групы «Народаўладдзе»), Мікалай Харытонаў (кіраўнік Аграрнай групы), Георгій Ціханаў (старшыня камітэта Дзяржаўнай Думы па справах СНД і сувязях з суайчыннікамі) і іншыя.

У праграме візіту прадугледжаны перагаворы расійскіх парламентарыяў з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Лукашэнкам, Старшынёй Вярхоўнага Савета С. Шарэцкім, прэм'ер-міністрам М. Чыгіром, міністрам замежных спраў У. Сянько, Старшынёй Канстытуцыйнага суда В. Ціхіняй. Акрамя таго, Генадзь Селязнёў мае намер выступіць на сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, правесці сумесна са сваім калегам С. Шарэцкім прэс-канферэнцыю для журналістаў і сустрэцца з прадстаўнікамі рускай інтэлігенцыі, што жывуць у нашай краіне.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## СОРАК ПРАДПРЫЕМСТВАЎ АД КАНСЕРВАЦЫІ АДМОВІЛІСЯ

**Па папярэдніх даных, дзевяць прадпрыемстваў прадставілі матэрыялы аб сваёй дзейнасці на разгляд камісіі, створанай у Міністэрстве прамысловасці па пытанню кансервацыі прадпрыемстваў. У хуткім часе камісію праінфармуюць аб стане спраў яшчэ васемнаццаць.**

Сорак прадпрыемстваў адмовіліся ад спынення вытворчасці. Інфармацыя будзе паступаць на працягу ліпеня. Канчатковы спіс прадпрыемстваў, што падлягаюць спыненню, стане вядомы на пачатку жніўня. Як адзначыў начальнік упраўлення інвестыцый і магутнасцей Міністэрства прамысловасці Аляксандр Малыхін, пакуль няма прапаноў аб поўным спыненні завода ці фабрыкі. Вытворцы плануюць перажыць цяжкія часы, перапыніўшы дзейнасць толькі асобных цэхаў і тэхналагічных ліній.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

Ліпеньскі клопат пра зіму.

Фота Анатоля КЛЕШЧУКА.

## ПРАФЕСІЯНАЛАЎ У АРМІІ СТАНОВІЦЦА ЎСЁ БОЛЬШ

**Больш за 10 тысяч ваеннаслужачых-кантрактнікаў служыць сёння ў Беларускіх Узброеных Сілах. У рэспубліцы ўжо існуюць цэлыя часці і падраздзяленні, сфарміраваныя з салдат-кантрактнікаў, напрыклад, у Гродне і Навагрудку.**

Сярэдні заработак кантрактніка складае каля 800 тысяч рублёў.

Калі паглядзець на эканамічны бок такога новаўвядзення, дык, паводле падлікаў спецыялістаў, утрыманне ваеннаслужачага тэрміновай службы каштуе дзяржаве прыкладна 15 мінімальных зарплат у месяц. Ваеннаслужачы-кантрактнік абыходзіцца дзяржаве прыблізна ў 11 мінімальных зарплат у месяц. У гэтых падліках яшчэ не ўлічваецца тое, што маладыя салдаты для атрымання спецыяльнасці праводзяць некалькі месяцаў у «вучэбцы», а гэта таксама дадатковыя расходы. У адрозненне ад навабранцаў кантрактнікі — ужо гатовыя прафесіяналы.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## ЛІДСКІ ЗАВОД «НЁМАН» ВОСЕННЮ МОЖА СПЫНІЦЦА

**Верагодна, восенню могуць спыніцца вытворчыя магутнасці лідскага завода «Нёман», дзе выпускаюцца гарадскія аўтобусы.**

Чакалася, што ў гэтым годзе будзе сабрана 120 машын, але пакуль з Міністэрствам транспарту падпісаны дагавор на 36 аўтобусаў. На прадпрыемстве могуць выканаць заяўку міністэрства ў трэцім квартале, а што далей — невядома. Застаецца надзея, што міністэрства знойдзе дадатковыя сродкі і завод будзе рытмічна працаваць да канца года. Недахоп абаротных сродкаў не дазваляе прадпрыемству таксама павялічыць выпуск аўтобусаў для рэалізацыі іх у краінах бліжняга замежжа. Сёлета толькі адна машына была накіравана ў Расію (у 1995 — шэсць).

**Ася КУНІЦКАЯ, БелаПАН.**

*Аляксандр ЛУКАШЭНКА:*

## «БЕЛАРУСЬ ЁСЦЬ І БУДЗЕ НЕЗАЛЕЖНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ»

**Прэзідэнт краіны падкрэсліў гэта на сустрэчы з кіраўнікамі шэрага рэспубліканскіх газет і нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. Падставай для чатырохгадзіннай размовы былі вынікі двух гадоў знаходжання А. Лукашэнкі ва ўладзе, але, натуральна, абмяркоўвалася многае з таго, што сёння хвалюе людзей.**

Аб гэтым падрабязна «Звязда» раскажа заўтра, а пакуль толькі некаторыя меркаванні першага Прэзідэнта краіны.

Самае галоўнае, на думку А. Лукашэнкі, што ўдалося зрабіць за два гады — гэта захаваць краіну, не дапусціць тых разбуральных працэсаў, якія адбыліся ў іншых рэспубліках былога Саюза. Сёння ніхто на Беларусі нікому не перашкаджае працаваць і зарабляць. Для гэтага Прэзідэнтам створаны ўмовы, «але мяне не выбіралі на кожным заводзе генеральным дырэктарам. Я гатовы прыняць частку папрокаў, але толькі частку, усё астатняе — справа працоўных калектываў і іх кіраўнікоў». Галоўнай прычынай, якая не дазваляе Беларусі, яе эканоміцы ісці хутчэй, Прэзідэнт назваў разрыў традыцыйных эканамічных сувязей.

Прэзідэнт лічыць сваёй вялікай памылкай, што шмат праблем жыцця краіны ён замкнуў на сябе. Прычына была ў тым, што ў апарат кіравання прыйшло многа новых людзей, якім трэба было і дапамагаць, і правяраць, каб зноў не вырастала карупцыя.

На думку А. Лукашэнкі, рэзкіх змен ва ўзаемаадносінах Беларусі з Расіяй пасля перавыбрання Ельцына не будзе. Рынкавыя рэформы ў нас будуць ісці сваім шляхам, у прыватнасці, метадам «кропкавай прыватызацыі», калі пасля ўсебаковага вывучэння ўсіх абставінаў, у тым ліку і самім Прэзідэнтам на месцы, з улікам думкі працоўных калектываў акцыяніруюцца асобныя буйныя прадпрыемствы, якія вызначаюць палітыку ў сваіх галінах.

Кіраўнік дзяржавы мае намер праз новы рэферэндум унесці змены ў Канстытуцыю. Арыенцірам стане Канстытуцыя Францыі. Прэзідэнцкая ўлада павінна быць больш моцнай, дакладней, больш акрэсленымі стануць паўнамоцтвы Прэзідэнта. Лукашэнка адверг папрокі ў імкненні да дыктатуры. Дарэчы, на выказаную яму прапанову дзеля прымірэння ў грамадстве надаць ранейшай беларускай сімволіцы статус гістарычнай, Прэзідэнт адказаў, што сам зрабіць гэтага не можа, але таксама вынясе гэта пытанне на рэферэндум. На рэферэндум плануецца паставіць і пытанне аб куплі і продажы зямлі сельскагаспадарчага прызначэння.

Распрацоўваецца канцэпцыя развіцця краіны. Яна будзе грунтавацца на праграме А. Лукашэнкі, з якой ён ішоў на прэзідэнцкія выбары.

Запомнілася фраза Прэзідэнта: «Чым больш супраціўлення на маім шляху, чым больш цяжкасцей ўзнікае — тым больш актыўна я працую і патрабую гэтага ад іншых...»

*ПАРЛАМЕНЦКІ ДЗЁННІК*

## УВАГА ДЭПУТАТАЎ НАКІРАВАНА НА ЖУРНАЛІСТАЎ

**Учора сесія Вярхоўнага Савета Беларусі пачала работу з унясення новых пытанняў у парадак дня.**

У прыватнасці, была падтрымана прапанова разгледзець на бліжэйшых пасяджэннях магчымасць стварэння самастойнай камісіі па справах ветэранаў і інвалідаў на аснове дзеючай зараз падкамісіі. Таксама мяркуецца, што ў бліжэйшы час парламент прыме рашэнне адносна балансу і размеркавання прыбытку Нацыянальнага банка.

Асноўная ж работа 9 ліпеня была прысвечана ўнясенню змяненняў і дапаўненняў у Закон «Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі», якія ад імя падкамісіі па СМІ і сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі прапанаваў яе старшыня Аляксандр Дабравольскі. Папраўкі датычацца ў першую чаргу скарачэння даных, неабходных для рэгістрацыі новага сродку інфармацыі, змянення правілаў апублікавання абвержанняў.

Але найбольшыя спрэчкі ўзніклі вакол тэрміну іскавой даўнасці ў выпадку знявагі грамадзяніна ў друку, на тэлебачанні ці радыё. Камісія прапанавала абмежаваць гэты тэрмін 3 гадамі, а дэпутат Л. Юнчык, напрыклад, — адным годам. У выніку ж ні адзін з варыянтаў большасцю ВС не быў падтрыманы. Такім чынам тэрмін звароту ў суд для абароны годнасці і гонару застаўся неабмежаваным.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

*НА СКРЫЖАВАННІ ДУМАК*

## ВЯРХОЎНЫ САВЕТ МАЕ НАМЕР АДСТОЙВАЦЬ СВАЕ ПРАВЫ НА «НАРОДНУЮ ГАЗЕТУ»

**9 ліпеня ў прэс-цэнтры Вярхоўнага Савета перад журналістамі выступілі прадстаўнікі Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, СМІ, сувязях з грамадскімі аб'яднаннямі і рэлігійнымі арганізацыямі Уладзімір Нісцюк, Аляксандр Дабравольскі, Іван Свірыд, Вячаслаў Герасіменка. Тэма гутаркі тычылася акцыяніравання паводле прэзідэнцкага ўказа органа Вярхоўнага Савета «Народнай газеты». Два супрацоўнікі гэтага выдання Аляксандр Ачарэтні і Сяргей Навоеў таксама прысутнічалі на прэс-канферэнцыі і выказалі сваю пазіцыю.**

Уладзімір Нісцюк зазначыў, што прэзідэнцкі ўказ, які прадугледжвае акцыяніраванне «Народнай газеты», паводле ягоных ацэнак, парушае каля шасці артыкулаў Закона аб уласнасці і чатыры артыкулы Закона аб СМІ. А таму дэпутаты заявілі, што яны хочуць аднавіць законнасць у гэтым пытанні і вярнуць «Народную газету» яе заснавальніку, Вярхоўнаму Савету. Аляксандр Дабравольскі і Уладзімір Нісцюк прызналі, што Вярхоўны Савет сам справакаваў падобнае развіццё падзей, затрымліваючы сваё рашэнне па галоўнаму рэдактару «Народнай газеты».

— Пасля зняцця прэзідэнцкім указам з пасады галоўнага рэдактара «Народнай газеты» Іосіфа Сярэдзіча гэтая сітуацыя не з'яўляецца нечаканай. Тым не менш яна супрацьзаконная, толькі Вярхоўны Савет як заснавальнік можа прымаць нейкія рашэнні аб рэарганізацыі «Народнай газеты», — заявіў старшыня падкамісіі па сродках масавай інфармацыі Аляксандр Дабравольскі. — Гэта чарговае парушэнне закона, але гэта не так істотна. Істотнае ж тое, што справа гэтая паказальная: калі Вярхоўны Савет і тут не адстаіць сваю пазіцыю, то ён страціць усякую павагу.

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*Міхаіл ШЫМАНСКІ:*

## «МЫ КІРУЕМСЯ УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА»

**Назначаны Прэзідэнтам на пасаду галоўнага рэдактара «Народнай газеты» Міхаіл Шыманскі так пракаменціраваў карэспандэнту «Звязды» сітуацыю ў «Народнай газеце» і вакол яе:**

— Вы ўжо, напэўна, заўважылі, што ва ўсіх падзеях, якія адбываюцца апошнія паўтара гады вакол «Народнай газеты», гэты перыяд, калі я тут працую, стаў чамусьці самым напружаным. Чамусьці так атрымалася, што калі быў зняты з пасады Іосіф Сярэдзіч і, зноў жа, прэзідэнцкім указам быў назначаны М. Галко, тады было менш такога апазіцыйнага шуму, чым цяпер. Гэта трэба разумець так, што гэтая пасада галоўнага рэдактара вельмі патрэбная пэўным палітычным сілам, і, відаць, гэтыя сілы, у тым ліку маючыя ўплыў у парламенце, не хочуць, каб на гэтую пасаду прыйшоў чалавек цэнтрысцкага плана, зусім незалежны і не падвергнуты палітычным схільнасцям. Такі чалавек «Народнай газеце», на думку часткі дэпутатаў, не патрэбны. Як я разумею, уся гэтая пажарная сітуацыя ідзе ад Камісіі па сродках масавай інфармацыі... Заўважце, нягледзячы на тое, што ў мяне была пэўная падтрымка ў фракцыях аграрыяў, камуністаў, я за сябе не пратэжыраваў, не бегаў да дэпутатаў, не размаўляў з імі ў кулуарах і г. д. Я не апускаюся да гэтай закуліснай агітацыі, а проста працягваю працаваць на гэтай пасадзе, якая была мне прапанавана Прэзідэнтам. Я лічу, што гэта далёка немалаважны момант ва ўсіх гэтых разборках. А калі Вярхоўны Савет лічыць сваім абавязкам проціпаставіць сябе Прэзідэнту, праз мяне, праз маю асобу, відаць, у іх так і атрымліваецца.

Гэтыя сто дзён я прапрацаваў на пасадзе выконваючага абавязкі рэдактара «Народнай газеты» і я думаю, што па пошце, званках можна меркаваць, што чытачы адчулі, што газета пераходзіць на тыя пазіцыі ўзважанасці і цэнтрызму, якія патрэбны нашаму спакойнаму і памяркоўнаму грамадству. Працавалася мне даволі цяжка, таму што такі прэсінг з боку Вярхоўнага Савета, не самога Вярхоўнага Савета як арганізацыі, а дэпутатаў пэўнага крыла, якія настойліва спрабавалі ўмешвацца ў наш творчы працэс, навязваць тэмы, рэцэнзаваць газету, аўтарскі

(Заканчэнне на 3-й стар.)

*ЯК НАС ДУРАЦЬ*

## ЗЛАВІЛІ «ВАРОНУ», АЛЕ...

**Адна з мінскіх фірмаў заключыла дагавор з гомельскім крупяным заводам, каб перапрацаваць там трыста тон грэчкі. Згодна з дамоўленасцю, гэтая здзелка павінна была прынесці выгаду абодвум бакам: шэсцьдзесят працэнтаў ад танажу сыравіны вярталася заказчыку, астатняе заставалася выканаўцу. Аднак не тое тут было, бо ў справу ўмяшаўся трэці бок, які вырашыў пажывіцца за чужы кошт. І, трэба сказаць, зрабіў гэта вельмі спрытна. А было так.**

Фірма мела ў горадзе над Сожам свайго пастаяннага прадстаўніка, які ўступіў у злачынную змову з групай асоб, што падраблівалі дакументы. Дык вось, яны «зварганілі» паперы на атрыманне трыццаці тон грэцкіх круп не на прозвішча таго прадстаўніка, а на нейкага К. Груз жа атрымліваў прадстаўнік, якога на прадпрыемстве добра ведалі, а тыя, хто адпускаў крупы, не паглядзелі ў даверанасць і без вагання адгрузілі іх. На аўтамабілі з падробленымі нумарамі крупы агульным коштам на дзвесце два мільёны рублёў былі дастаўлены ў вызначанае месца, выгружаны, азатым пачалася рэалізацыя іх.

Усё, плакалі грошыкі, вырашылі мінчане і гамяльчане. Паспрабуй цяпер даказаць, што ўтварыў прадстаўнік фірмы, да якога з колам да горла не палезеш: паперы ж на каго афармлены? Напэўна, так і тарымалася б, калі б не пільнасць і высокае прафесійнае майстэрства работнікаў упраўлення па барацьбе з арганізаванай злачыннасцю МУС Рэспублікі Беларусь па Гомельскай вобласці. Аказваецца, яны з самага пачатку, як кажуць, трымалі і прадстаўніка фірмы і яго саўдзельнікаў на мушцы. І спынілі іхнюю злачынную дзейнасць у самы адказны момант, сабраўшы ўсе доказы для ўзбуджэння крымінальнай справы.

**Уладзімір ПЕРН[illegible].**

## АДНЫМ СКАЗАМ

❑ **Запазычанасць за энерганосьбіты** ў першым паўгоддзі склала **1.269 млрд. рублёў** (у тым ліку за газ — 1.162 мільярды), аплата за бягучае спажыванне за гэты час склала толькі 74 працэнты.

❑ На вуліцы Мінска штодзённа выходзіць зараз **1200 таксі**, якія выпускаюць на лініі акцыянернае таварыства «Легаўтатранс» і «Легаўтасервіс», яшчэ 1800 машын з «шашачкамі» зарэзервавана за прыватнікамі.

❑ **Толькі за чэрвень** пагранічнымі і мытнымі службамі Беларусі спынена спроба правозу праз мяжу кантрабанднага тавару на агульную суму больш як 400 млн. рублёў, казна рэспублікі папоўнілася таксама 15 тысячамі долараў, вялікай колькасцю іншай валюты.

❑ За адзін толькі тыдзень ліпеня на Гродзеншчыне **ўдарамі маланкі смяротна траўміраваны** 4 чалавекі.

❑ Гродзенскія абласныя ўлады зацвердзілі палажэнне, згодна з якім вясковыя **населеныя пункты вобласці могуць выбіраць** сабе «галаву» — **старасту**.

❑ Доля валавога ўтрымання прадукту, **выробленага ў прыватным сектары Беларусі** складае зараз 15 працэнтаў; для параўнання: у Расіі і Літве — 55 працэнтаў, Венгрыі, Латвіі, Польшчы — 60, Эстоніі, Чэхіі — 65—70 працэнтаў.

❑ **Адносіны** беларускага насельніцтва **да прыватызацыі** за апошнія гады **сталі больш «прахладнымі»:** калі ў 1992 годзе да ідэі прыватызацыі як ключавога звяна эканамічных рэформаў станоўча адносіліся 44,6 працэнта апытаных, то ў канцы мінулага года — 32,5 працэнта.

*АФІЦЫЙНА*

# УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**№ 244**

## АБ СТЫМУЛЯВАННІ СТВАРЭННЯ І РАЗВІЦЦЯ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ ВЫТВОРЧАСЦЕЙ, ЗАСНАВАНЫХ НА НОВЫХ І ВЫСОКІХ ТЭХНАЛОГІЯХ

У мэтах рэфарміравання народнагаспадарчага комплексу шляхам стварэння і развіцця вытворчасцей, заснаваных на новых і высокіх тэхналогіях, арганізацыі дадатковых рабочых месцаў і актывізацыі дзейнасці нацыянальных і замежных інвестараў на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь **пастанаўляю:**

1. Лічыць важнейшым напрамкам эканамічнай стратэгіі Рэспублікі Беларусь на 1996—2010 гады павышэнне канкурэнтаздольнасці прадукцыі беларускіх таваравытворцаў шляхам стварэння і развіцця вытворчасцей, заснаваных на новых і высокіх тэхналогіях, прыцягнення нацыянальных і замежных інвестыцый, што забяспечваюць структурную перабудову і прагрэс эканомікі.

2. Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

2.1. У двухмесячны тэрмін забяспечыць распрацоўку крытэрыяў ацэнкі новых і высокіх тэхналогій, вытворчасцей, заснаваных на гэтых тэхналогіях, высокатэхналагічных прадпрыемстваў, а таксама падрыхтоўку пераліку прыярытэтных напрамкаў стварэння і развіцця новых і высокіх тэхналогій, перспектыўных вытворчасцей, заснаваных на такіх тэхналогіях, на 1996—2010 гады;

2.2. Пры падрыхтоўцы праекта Падатковага кодэксу Рэспублікі Беларусь прадугледзець у ім ільготнае падаткаабкладанне інвестыцый, што прыцягваюцца для стварэння і развіцця вытворчасцей, заснаваных на новых і высокіх тэхналогіях, уключаючы ўстанаўленне падатковых ільгот, якія садзейнічаюць развіццю фінансавага рынку, арганізацыі экспартна арыентаваных вытворчасцей і навукова-даследчых распрацовак, прыцягненню інвестыцый юрыдычных і фізічных асоб;

2.3. Унесці ва ўстаноўленым парадку Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы:

2.3.1. Аб змяненні дзеючага заканадаўства па падаткаабкладанню, прадугледзеўшы меры па дзяржаўнай падтрымцы распрацоўкі, прыцягнення і ўкаранення ў вытворчасць новых і высокіх тэхналогій, а таксама па садзейнічанню нацыянальным і замежным інвестарам, беларускім юрыдычным асобам незалежна ад формаў уласнасці, у тым ліку прадпрыемствам з замежнымі інвестыцыямі, у частцы:

вызвалення тэрмінам на 5 гадоў прадукцыі і паслуг, якія вырабляюцца (аказваюцца) з прымяненнем новых і высокіх тэхналогій, ад падаткаў і мытных пошлін, а таксама прыбытку прадпрыемстваў ад спагнання падаткаў з моманту яго аб'яўлення (для высокатэхналагічных прадпрыемстваў);

зніжэння ставак падаткаў на прыбытак і на дабаўленую вартасць;

вызвалення прадукцыі, выробленай з прымяненнем новых і высокіх тэхналогій, ад абкладання акцызамі або зніжэння іх ставак;

вызвалення прадукцыі ўласнай вытворчасці на перыяд акупнасці капітальных укладанняў ад абкладання экспартнымі мытнымі пошлінамі або зніжэння іх ставак;

вызвалення ўвозімых на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь сыравіны, паўфабрыкатаў і абсталявання, неабходных для выпуску прадукцыі ўласнай вытворчасці, ад абкладання мытнымі пошлінамі або зніжэння іх ставак;

прадастаўлення падатковых ільгот банкам і іншым фінансавым арганізацыям, што забяспечваюць крэдытаванне, страхаванне і перастрахаванне прадпрыемстваў, якія ўкараняюць у вытворчасць новыя і высокія тэхналогіі або ажыццяўляюць на іх аснове выпуск канкурэнтаздольнай прадукцыі;

2.3.2. У двухмесячны тэрмін — аб устанаўленні для нацыянальных і замежных інвестараў, якія ажыццяўляюць капітальныя ўкладанні ў вытворчасці, заснаваныя на новых і высокіх тэхналогіях, доўгатэрміновых фіксаваных тарыфаў на ваду, электрычную і цеплавую энергію, а таксама фіксаваных плацяжоў за зямлю або прадастаўленні ім права набыцця зямельнага ўчастка ва ўласнасць для рэалізацыі інвестыцыйных праектаў па стварэнню і развіццю новых і высокіх тэхналогій;

2.3.3. У трохмесячны тэрмін — аб стварэнні ў раёне аэрапорта Мінск-2 і пасёлка Абчак свабодных эканамічных зон для развіцця экспартных вытворчасцей з новымі і высокімі тэхналогіямі, уключаючы рэалізацыю сумеснага беларуска-амерыканскага праекта «Форд Юніён».

У палажэннях аб указаных зонах, а таксама праграмах іх развіцця прадугледзець канкрэтныя меры па стварэнню ў гэтых зонах банкаўскай, фінансавай і страхавой інфраструктур;

2.4. Прадугледзець ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку адчужэнне нявыкарыстанай маёмасці, што знаходзіцца ва ўласнасці Рэспублікі Беларусь, або прадастаўленне яе ў арэнду прадпрыемствам (арганізацыям) у першую чаргу для ўтварэння на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь тэхнапаркаў і іншых арганізацый па рэалізацыі навукова-тэхнічных праектаў і праграм.

3. Для каардынацыі дзейнасці нацыянальных і замежных інвестараў па забеспячэнню рэфарміравання народнагаспадарчага комплексу краіны ўтварыць Кансультатыўны савет па інвестыцыях пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, уключыўшы ў яго састаў прадстаўнікоў дзелавых колаў рэспублікі і замежных дзяржаў.

Кабінету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь прапановы па персанальнаму саставу, статусу і асноўных напрамках дзейнасці Кансультатыўнага савета па інвестыцыях.

4. Гэты Указ уступае ў сілу з дня яго апублікавання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**
8 ліпеня 1996 г., г. Мінск.

# ЗАКОН РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ УНЯСЕННІ ЗМЯНЕННЯЎ І ДАПАЎНЕННЯЎ У КРЫМІНАЛЬНЫ І КРЫМІНАЛЬНА-ПРАЦЭСУАЛЬНЫ КОДЭКСЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

Унесці змяненні і дапаўненні ў наступныя заканадаўчыя акты Рэспублікі Беларусь:

I. У Крымінальны кодэкс Рэспублікі Беларусь, зацверджаны Законам Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., №1, арт. 4; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1994 г., №12, арт. 176):

1. Дапоўніць артыкул 86 заўвагай наступнага зместу:

«Заўвага: Не падлягаюць адказнасці за злачынствы, прадугледжаныя артыкуламі 86, 178 і 186 гэтага Кодэкса, блізкія сваякі, пералічаныя ў пункце 9 артыкула 22 Крымінальна-працэсуальнага кодэкса Рэспублікі Беларусь, і члены сям'і асобы, якая ўчыніла злачынства».

2. Артыкул 94 пасля слова «арганізацыі» дапоўніць словамі «шляхам крадзяжу, прысваення, растраты, злоўжывання службовым становішчам і махлярства».

3. Заўвагу да артыкула 177 выключыць.

II. У Крымінальна-працэсуальным кодэксе Рэспублікі Беларусь, зацверджаным Законам Рэспублікі Беларусь ад 29 снежня 1960 года (ЗЗ БССР, 1961 г., №1, арт. 5; 1983 г., №27, арт. 445), частку другую артыкула 66 дапоўніць пунктамі 3 і 4 наступнага зместу:

«3) блізкія сваякі, пералічаныя ў пункце 9 артыкула 22 гэтага Кодэкса, і члены сям'і асобы, якая ўчыніла злачынства;

4) свяшчэннаслужыцель — аб акалічнасцях, якія сталі яму вядомы ў сувязі з выкананнем рэлігійных абрадаў».

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А.ЛУКАШЭНКА**
26 чэрвеня 1996 г., г.Мінск.

# ПАСТАНОВА ВЯРХОЎНАГА САВЕТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

## АБ ПРАДАЎЖЭННІ ПАЎНАМОЦТВАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ КАМІСІІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ПА ВЫБАРАХ І ПРАВЯДЗЕННЮ РЭСПУБЛІКАНСКІХ РЭФЕРЭНДУМАЎ

У сувязі з прыняццем 31 мая 1996 года Пастановы Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь «Аб правядзенні дадатковых паўторных выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь» Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь **пастанаўляе:**

1. Прадоўжыць паўнамоцтвы Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў у яе дзеючым складзе да завяршэння выбараў дэпутатаў Вярхоўнага Савета і дэпутатаў мясцовых Саветаў дэпутатаў Рэспублікі Беларусь у тых акругах, дзе пры правядзенні выбараў дэпутаты не былі выбраны.

2. Ускласці выкананне абавязкаў старшыні Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзенню рэспубліканскіх рэферэндумаў на намесніка старшыні камісіі **Жука** Аляксандра Аляксандравіча.

**Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С.ШАРЭЦКІ**
28 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.

# Педагогу хутка трэба будзе выходзіць да людзей з працягнутай рукой. А не гаварыць аб вечным

**Прылуцкую сярэднюю школу Мінскага раёна цяжка назваць вясковай — прыгожы двухпавярховы цагляны будынак, навокал размясціліся трох-пяціпавярховыя дамы. Гэта вам не звычайная глыбінка, дзе і школа драўляная, куды і аўталаўка завітвае раз на тыдзень. У Прылуках усё інакш. Мо таму, што менавіта тут размясціўся Беларускі навукова-даследчы інстытут аховы раслін, і ствараюцца своеасаблівыя ўмовы для працы дацэнтаў і прафесараў. На мой погляд, прычына не ў гэтым ці не толькі ў гэтым — тутэйшыя людзі імкнуцца будаваць сваё жыццё па-новаму, актыўна ўключаючыся ў сучасныя перамены.**

Не засталася ў баку ад гэтага ўсеагульнага прылуцкага працэсу і школа. Першае, што ўражвае, — вялікі прышкольны ўчастак (аж на 75 сотак, як я даведаўся пазней), на якім корпаюцца вучні разам з настаўнікамі. Пакінуўшы свае надзённыя клопаты аб уласнай гаспадарцы, працавалі яны на карысць роднай школы, каб пасля, узімку, спажыць вырашчанае. Абеды, атрымліваецца, прылуцкія вучні зарабляюць сабе ў час летняй практыкі. На школьным участку расце літаральна ўсё — агуркі, морква, бульба, зяленіва. Так што ў складаных эканамічных умовах прылуцкая школьная адміністрацыя знайшла добры спосаб пракарміцца самастойна, ні на каго не спадзеючыся. Адно дрэнна — «душыць» прадпрыемства агульнага харчавання. Школа аддае ім вырашчанае, каб атрымліваць ужо ў прыгатаваным выглядзе з трайнымі накруткамі. А яшчэ ж ці не глупства везці малако і сокі з Мінска, калі суседняе сельгаспрадпрыемства «Усход» згодна пастаўляць іх да стала школьнікаў хутчэй і танней. А вось у Мінску лічаць інакш — ім жа нельга губляць рынак збыту.

Таму абеды ў Прылуцкай школе не бясплатныя, хаця і каштуюць вельмі нядорага: так, напрыклад, так званая «дарослая» порцыя абыходзіцца настаўнікам усяго ў чатыры тысячы рублёў. У сталовай харчуецца дзесьці 80 працэнтаў школьнікаў. Астатнія 20 працэнтаў складаюцца з хворых, не наведваючых школу, і з тых дзяцей, каму бацькі даюць нешта з сабой.

Як гаворыцца, хто добра есць, той добра працуе, што ў перакладзе на школьную мову гучыць так: вучыцца. Пра ўзровень ведаў прылуцкіх вучняў ніхто нічога дрэннага не скажа — стабільна трэць выпускнікоў паступае ў вышэйшыя навучальныя ўстановы краіны. Частка падлеткаў займаецца ў школе для таленавітых дзяцей пры Белдзяржуніверсітэце, шмат хто — пераможцы абласных і рэспубліканскіх алімпіяд. І гэта пры тым, што хваля агульнай абыякавасці да набыцця ведаў закранула і мясцовых школьнікаў. Заслуга педагогаў Прылуцкай школы ў тым, што наперакор усім лянотам сваіх вучняў імкнуцца, каб выхаванцы атрымалі не толькі паперу аб заканчэнні школы, а і канкрэтны багаж самай разнастайнай інфармацыі. «Выдатна», словам, у Прылуках можна атрымаць толькі праз «сем патоў».

Настаўніцкі калектыў тут складаецца з 37 чалавек, акрамя таго трое знаходзяцца ў дэкрэтным водпуску па догляду дзяцей. Ніякай шалёнай цякучасці кадраў няма — усё стабільна. У калектыве працуюць тры настаўнікі перадпенсіённага ўзросту, двое з іх маюць званне заслужаных. У асноўным усе прылуцкія педагогі — мясцовыя жыхары. Але прыязджаюць сюды на працу і з Мінска. Так, настаўніца замежнай мовы кожны дзень ездзіць ажно з Масюкоўшчыны ў Прылукі, выдаткоўваючы для гэтага з уласнай кішэні каля 10 тысяч рублёў. Відаць, адносіны паміж настаўнікамі тут будуюцца на аснове шчырасці і добразычлівасці. Дырэктар Прылуцкай школы Ніна Сяргееўна Лазовік у размове з карэспандэнтам бедавала наконт таго, што яе выхаванцам нельга з'ездзіць у Мінск у тэатр ці на дыскатэку — знялі маршрут аўтобуса на 23 гадзіны і зараз апошні аўтобус прыходзіць у Прылукі ў 21.00. Дзе ж тут адпачнеш, нават у кіно не сходзіш...

Ведаеце, калі сутыкаешся з такой амаль ідыліяй вучэбнага працэсу, знікаюць усе папярэдне прадуманыя будзённыя пытанні наконт грошай і прысядзібных участкаў. Настаўнікі ў Прылуках вельмі лаяльныя, разумеюць, што ўсім зараз жывецца цяжка, таму і не скардзяцца, калі ім затрымліваюць на некалькі дзён заработную плату. Наогул жа, яе выплачваюць заўсёды своечасова. Атрымліваюць тут таксама і грошы, ідучы на адпачынак. Але па месяцах — ідзеш у пачатку ліпеня, то і атрымлівай за чэрвень, а потым у пачатку жніўня — за ліпень.

Не сакрэт, што вясковы настаўнік жыве як бы двухбаковым жыццём — у школе і па-за школай. Прыходзіць пасля ўрокаў дадому і, праверыўшы сшыткі і напісаўшы план на наступны дзень, займаецца сваёй гаспадаркай. Бо на настаўніцкую зарплату пражыць зараз проста немагчыма. Лічыце самі, калі муж з жонкай працуюць у школе (у Прылуках, праўда, такога няма), то разам атрымліваюць зарплату дзесьці роўную двум мільёнам. Гэта ў лепшым выпадку. Вось і прыходзіцца пасля працы ў дзяржаўнай установе (школе) працаваць на сябе. У Прылуках зрабіць гэта даволі складана, паколькі жывуць многія настаўнікі ў пяціпавярховых дамах і, калі і маюць нейкі ўчастак, то вельмі невялікі. Так, сама дырэктар мае надзел усяго ў дзве соткі. Адна настаўніца трымае карову, яшчэ некалькі — свіней. Малако можна набываць за палову гарадскога кошту ў сельгаспрадпрыемстве «Усход», тут кожны настаўнік Прылуцкай сярэдняй школы можа ўзяць ажно да пятнаццаці літраў у дзень. Так што карову трымаць зусім не абавязкова.

Жыллём забяспечаны амаль усе настаўнікі. Пяцёра, якія не мелі свайго кута, атрымалі нядаўна жыллёвыя субсідыі на будаўніцтва, спадзяюцца ў хуткім часе ўзвесці сабе «харомы». А вось калі здзейсніцца іх мара, праз пяць гадоў або праз дзесяць — невядома...

Жывуць зараз настаўнікі, канешне, як гаварылі раней, «на голым аптымізме». Выхоўваюць падрастаючае пакаленне, рыхтуюць будучае. «Інжынерамі дзіцячых душ» назваў іх Антон Макаранка. А ці ж так яно зараз на самай справе? Бо калі раней прафесія настаўніка лічылася сярод самых прэстыжных, то сёння мы можам канстатаваць той факт, што педагогу пры ўсёй яго прафесіянальнай годнасці хутка трэба будзе выходзіць да людзей з працягнутай рукой. Аб якім тады разумным і вечным можна весці гаворку?

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ХОЧАШ ЗАРАБІЦЬ ПЯЦЬ ТЫСЯЧ ДОЛАРАЎ -- КІДАЙ КУРЫЦЬ

**У рамках сусветна вядомай праграмы «СІНДЗІ», скіраванай на пашырэнне здаровага ладу жыцця, падведзены вынікі аднаго з этапаў праекта «Кінь курыць -- і стань пераможцам».**

Каля 20 краін прынялі ўдзел у акцыі, падчас якой шляхам анкетавання, тэсціравання былі выяўлены тысячы людзей, што пажадалі адмовіцца ад тытуню. Сярод удзельнікаў праекта на Беларусі разыграна 25 прызоў. Два галоўныя з іх -- бясплатныя санаторныя пуцёўкі, выдзеленыя прафсаюзамі.

А самы каштоўны прыз разыграваўся ў Чэлябінску, дзе падводзіліся сусветныя вынікі акцыі «Кінь курыць -- і стань пераможцам». Пяць тысяч долараў «паехалі» ў Кітай. Дастануцца яны персанальна аднаму шчаслівчыку, які кіне курыць.

**Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.**

# ПРЫСМАК «ЧЫРВОНАГА ЗОЛАТА»:

***Гісторыя сведчыць: былі часы, калі соль лічылася даражэйшай за золата. Напрыклад, продкі сучасных солездабытчыкаў далёкага расійскага Урала (дзе нетры зямныя захоўваюць чатыры пятыя запасаў калійнай солі ўсёй СНД і немалую частку солі кухоннай), яшчэ ў часы Казанскага ханства мянялі свае салёныя крышталі на каштоўнейшы метал, гандлюючы з магутнай Візантыяй. Пройдуць сотні гадоў, і не раз крутанецца кола гісторыі, і ўтворацца яе паралелі. Урал наблізіцца да Беларусі: роднасная па галіне прамысловасць, прадпрыемствы, збудаваныя рукамі беларусаў і расіян, горад, што стане для іх агульнай радзімай — амаль цёзка старажытнага ўральскага...***

***Пасля, калі СССР стане СНД, а кожная з «рэспублік-сясцёр» — адзінай гаспадыняй уласных багаццяў, беларуская соль зноў стане чырвонай: не толькі па колеру, а яшчэ і з «чырвонным» адценнем. Калі менш мудрагеліста, сёння «Беларуськалій» для бюджэту дзяржавы — здабытчык да 45 працэнтаў валютных паступленняў. Здаецца, яго прадпрыемствы — адны з тых, што не патрабуюць тэрміновага «запушчэння» і не пагражаюць «выбухам» з-за неатрымання рабочымі зробленых імі грошай.***

***Але, відаць, меў рацыю нехта з паэтаў, што назваў соль слязамі зямлі, ды яшчэ — скамянелымі...***

## САЛЁНАЯ ГОРЫЧ

### ТАМ, ЗА РУЖОВЫМ ДАЛЯГЛЯДАМ...

... Знаёмы колер вастраверхіх гмахаў на салігорскім даляглядзе чамусьці заўсёды выклікае спакой. Гэта — пачуццё стабільнасці. Стаяць яны, ловіш сябе на думцы, як стаялі — і добра... Добра, бо горад ужо — не за гарамі!

А без іх тутэйшы пейзаж уявіць сабе проста немагчыма.

За гэты далягляд зазірнуць, здаецца, зусім проста. Падысці бліжэй. А лепш пад'ехаць. Тады ў чатырох месцах вакол горада сярод пейзажу мяжы Палесся бачыш крыху экзатычны шарм: нібыта «стэп ды стэп», скалістыя вяршыні ды азёры пад колер мора. Якогасьці паўднёвага.

Пра гэтую прыгажосць задоўга да часоў галоснасці ў папулярных брашурках траплялісь тэксты прыкладна з гэткім пачаткам:

«Тут не расце трава. Нідзе не чуваць звону птушак. Тут няма жыцця. Вакол толькі схілы, па якіх збягаюць ручаі...»

Калі першы позірк адвесці немагчыма, то з другога кідаюцца ў вочы статак кароў недалёка ад тэрыконаў, у полі, або гароды, праз дарогу ад іх. А то і траўка, што прабіваецца паміж «гор» праз кучу смецця (тут усё ж звалка, а не месца для экскурсій!)

Траўка як траўка, зялёненькая. І гароды... А каровы — наадварот. Пярэстыя. Так што ёсць тут жыццё. І рыба ў вадасховішчы і на Случы ловіцца, якая трэба, і толькі здалёк, са сталіцы, можна жартаваць, што ловяцца, маўляў, селядцы.

Няпраўда!

Калі апусціць руку ў адно з азёр паўднёва-марскога колеру, у спякотны дзень на ветры рука пабялее, а лёгкі панцыр заблішчыць ледзь прыкметнымі крышталікамі. Толькі не трэба спрабаваць іх на смак!

Не ведаю, хто прыдумаў назваць самае салёнае мора ў свеце, дзе з-за шчыльнасці вады не ідзе да дна чалавек, Мёртвым. Але калі гадоў пятнаццаць таму, здымаючы ля Салігорска кіно, дзвюх рыбін з рэчкі перамясцілі ў шламасховішча, гаротніцы гэтага не перажылі. Кадр, праўда, давялося выразаць, каб не сеяць шмат-шмат пытанняў з боку гледачоў. Бо ўсе далягляды на той час былі яшчэ колеру солеадвалаў. Калі не ружавейшымі.

Але 10 гадоў таму колер змяніўся — і саюзная, і рэспубліканская прэса пісала пра экалогію рэгіёна. Рэзананс адчуваўся, як выбух. Сёй-той з тых, хто датыкаўся да праблемы, лічыў яе для Беларусі пытаннем нумар адзін. А потым выбухнула ў Чарнобылі, і ўжо ён заняў першае месца ў размовах, і яго цень засланіў, здаецца, тыя самыя далягляды...

Ці, можа, усё ж было не зусім так?

Па праектах солеадвалам адведзена амаль 800 гектараў плошчы. Яны займаюць, праўда, усяго 545. Па вышыні меркаваліся каля 25 метраў. Сёння ўзнімаюцца больш як на сто. З кожных пяці тон здабытай руды сюды ідуць чатыры. Давядзецца зноў звярнуцца да лічбаў. Сем працэнтаў — так званыя галітавыя адходы: гліна, пясок, у меншай ступені бор, розныя мінералы. Астатняе прыпадае на тое, што мы сыплем у ежу. Усё? Пра іншае ніхто не згадвае...

У савецкі час ад тутэйшай зямлі бралі ўсё, што можна, не вельмі, відаць, думаючы пра тое, што застанецца нашчадкам: засаленне і адчужэнне зямель, уплыў у пэўнай ступені на мікраклімат рэгіёна. Дакладныя даныя? Іх не маецца ў наяўнасці, бо пытанне грунтоўна не вывучалася, і не так лёгка яго вывучыць на самай справе.

Што рабіць з солеадваламі? Ці можна закласці іх назад у зямлю, напрыклад? У навукова-даследчым інстытуце «Белгорхімпрам» я даведалася, што шахты з самага пачатку будаваліся без уліку магчымых закладачных работ. Тэхнічныя магчымасці ёсць, але эканамічна і тэхналагічна гэта нявыгадна. Што тады? Першае рудаўпраўленне, магчыма, стане прадпрыемствам па здабычы толькі каменнай солі? — пачула ад галоўнага інжынера праектаў Ісака Махлянкіна.

— Вырашаецца пытанне кансервацыі адвалаў, — працягвае Ісак Барысавіч. — Гэта складанае тэхнічнае пытанне. Размова аб тым, каб з прыцягненнем навукова-даследчых арганізацый і нашага інстытута распрацаваць і даць тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне спосабу кансервацыі. Гэта значыць — іх ізаляцыі. Зараз пра гэта рана гаварыць: солеадвалы «дзеючыя», а для іх ізаляцыі не павінны паступаць новыя порцыі адходаў. Да таго ж, сёння ў свеце няма прэцэдэнту, каб укрывалі адвалы такой плошчы...

Пытанне пра будучыню ружовых тэрыконаў стаіць ужо гадоў дваццаць, і пакуль ніхто не ведае, што будзе калі-небудзь на іхнім месцы. Верагодна — зялёныя горы з траўкай без смецця з непранікальнай плёнкай пад гэтым усім?..

Дажыву — буду доўга прывыкаць!

**Таццяна СНІТКО.**

## КАЛІЙНЫЯ РЭКІ, НАТРЫЕВЫЯ БЕРАГІ

***Тры гады таму салігорскае вытворчае аб'яднанне «Беларуськалій» пачало выпуск харчовай солі. Цэх фасоўкі новай прадукцыі размясціўся на месцы даследнай абагачальнай фабрыкі, дзе ў першыя гады арганізацыі калійнай прамысловасці шукаліся шляхі вырашэння глабальных праблем. Выпрабаванні новых рэагентаў, спосабы абясшламлівання і шмат што іншае пачыналася менавіта адсюль.***

***Аб развіцці вытворчасці новай прадукцыі расказвае начальнік цэха фасоўкі харчовай солі Уладзімір МАЛАКОВІЧ.***

**— Уладзімір Дзямідавіч, вернемся да падзей трохгадовай даўнасці. Ці шмат давялося пераабсталёўваць на фабрыцы? Бо новая вытворчасць усё ж адрозніваецца ад старой, ці не так?**

— Новая вытворчасць пачалася на старым абсталяванні. Была ўжо гатовая схема здрабнення і класіфікацыі руды, што ў свой час выкарыстоўвалася для правядзення выпрабаванняў. Схему крыху змянілі, абсталявалі будынак, каб ён адпавядаў санітарным нормам. Праз год узнікла патрэба атрымання солі ў больш дробнай упакоўцы для рознічнага гандлю. Тады з цэха сульфату калію 4-га рудаўпраўлення прывезлі фасовачныя апараты, пачысцілі, устанавілі і сталі фасаваць соль у кілаграмовыя пакеты.

**— Калі ўсё вырашылася так проста, значыць, і сам працэс выпуску калійнай солі нескладаны?**

— Тут больш арганізацыйнай працы. З працэсамі на калійных фабрыках яго не параўнаць. Паўфабрыкат солі праходзіць праз драбленне, потым робіцца яго здрабленне і класіфікацыя, абясшламліванне, выдаляецца пыл, часткова аддзяляецца гліна. Потым соль ідзе на затарванне і фасоўку. У выніку нескладанага і даволі хуткага працэсу атрымліваецца якасны і патрэбны прадукт. Наша соль не горшая ні за мазырскую, ні за ўкраінскую, а па цане таннейшая за ўкраінскую ўдвая. Тое, што яна крыху цямнейшая, азначае: у склад солі ўваходзіць у вельмі нязначнай колькасці гліна. Дарэчы, яна сама па сабе карысная, бо адыгрывае ролю адсарбента.

**— Але ўсё ж яшчэ ў мінулым годзе Беларусь закупіла 300 тон харчовай солі на Украіне.**

— На гэта можна назваць некалькі прычын. Па-першае, што датычыцца збыту, то, на мой погляд, у нас недастаткова рэкламы. Часта чуеш ад пакупнікоў: «Даведаліся зусім выпадкова, што ў вас можна купіць соль». Па-другое, магутнасць цэха сёння — 40 тысяч тон у год. Гэтага, вядома, недастаткова.

**— Ці ёсць магчымасць павялічыць аб'ёмы вытворчасці солі?**

— Ёсць. У бліжэйшы час гэта магчымасць будзе рэалізавана. Пачалася падрыхтоўка да будаўнічых работ па пашырэнню вытворчасці, і да канца года мы павінны падвоіць выпуск солі. А ў наступным годзе плануецца выпускаць ужо 150 тысяч тон. Вядома, гэта непараўнальна з аб'ёмамі калійных угнаенняў, што выпускае «Беларуськалій», і для аб'яднання гэта не асноўная крыніца прыбытку.

Да таго ж, па нейкіх незразумелых прычынах за здабытую тону хлорыстага натрыю, якая выкарыстоўваецца практычна поўнасцю, мы плацім 30 тысяч рублёў падатку. У той час як за тону руды для калійных угнаенняў, большая частка якой ідзе на солеадвал, падатак усяго 1.730 рублёў. Гэта значыць, што па нечаму капрызу аб'яднанню становіцца нявыгадна вырабляць харчовую соль, і дзяржаве даводзіцца завозіць яе з-за мяжы.

**— Наколькі я ведаю, асартымент прадукцыі выпускаемай цэхам, сёння не вельмі шырокі...**

— Пакуль гэта сапраўды так. Выпускаем харчовую соль у пакетах па аднаму кілаграму і ў мяшках. Прадукцыя выкарыстоўваецца на прадпрыемствах розных галінаў (хлебазаводах, рыбакомплексах і г. д.) Выпускаем і кармавую соль для жывёлагадоўлі. У праекце пашырэння вытворчасці прадугледжаны выпуск харчовай солі з рознымі дабаўкамі: ёдам, фторам, бромам і г. д., а таксама касметычных солей. Аднак пакуль не вырашана пытанне аб закупцы добрай фасовачнай лініі, якая б выключала ручную працу. Тая лінія, што прывезлі з 4-га рудаўпраўлення, вельмі прымітыўная.

Вытворчасць харчовай солі — адна з перспектыў развіцця першага рудаўпраўлення, дзе на двух распрацоўваемых гарызонтах запасы калійнай руды ўжо невялікія. Неабходны і сродкі, і час. А запасы харчовай солі вельмі вялікія. Настолькі, што ёю мы можам забяспечыць сваю рэспубліку і нават адпраўляць беларускую соль на экспарт.

**Яўгенія СТРАЦКЕВІЧ.**
**Фота Віктара ДРАЧОВА.**

# КАШАЛЁК ФЕРМЕРА

**ПРАВЕДЗЕНАЕ ўпраўленнем статыстыкі і аналізу Віцебскага аблвыканкома абследаванне 168 фермерскіх гаспадарак дазваляе выявіць карціну руху ў 1995 годзе даходаў і расходаў у прыватных сельскагаспадарчых прадпрымальнікаў.**

Першае супастаўленне вынікаў гаспадарчай дзейнасці фермераў сведчыць аб тым, што яны закончылі год са станоўчым вынікам, гэта значыць у іх агульная сума даходаў была вышэйшая за расходную частку. Галоўнай крыніцай паступлення грашовых сродкаў выступае выручка ад продажу прадуктаў раслінаводства і жывёлагадоўлі. На іх долю прыходзіцца амаль 80 працэнтаў даходнай часткі фермерскага бюджэту, ад выканання работ «на бок» і аказаных паслуг атрымана яшчэ 3,7 працэнта, прычым гэты паказчык на дробных фермах быў амаль у 3 разы вышэй, чым на больш буйных. Значную ролю ў прыходнай частцы адыгралі крэдыты, якія склалі 9,2 працэнта. Вельмі нязначнай была падтрымка фермерскіх гаспадарак дзяржавай — на долю субсідый і датацый, выдзеленых з бюджэту рэспублікі, прыпадала толькі 0,6 працэнта.

Вялікую цікавасць уяўляе структура даходаў ад рэалізацыі сельскагаспадарчай прадукцыі. Яна паказвае, якім галінам і відам прадукцыі фермеры аддаюць перавагу. У абследаваных гаспадарках 2/3 даходаў атрымана ад рэалізацыі прадукцыі раслінаводства і 1/3 — жывёлагадоўлі, у тым ліку на збожжа прыпадала 39,6 працэнта, бульбу — 17,6, агародніну — 5,3, садавіну — 0,7, малако — 10,7, мяса буйной рагатай жывёлы — 12,1 і свіней — 6,6 працэнта. Прыярытэтнай аказалася прадукцыя, якая пры існуючай тэхналогіі з'яўляецца менш працаёмкай — вытворчасць збожжа і мяса буйной рагатай жывёлы. На апошні від прадукцыі да таго ж менш расходуецца канцэнтраваных кармоў, якія дорага каштуюць, а маладняк для адкорму атрымліваецца ад уласных кароў. Але ў далейшым становішча, відаць, зменіцца, паколькі ад рэалізацыі аднаго цэнтнера жывой масы свіней фермеры атрымалі даходу ў 2,4 раза больш, чым ад буйной рагатай жывёлы. На другім месцы ў шкале прыярытэтаў знаходзяцца бульба і малако. Абодва віды прадукцыі належаць да традыцыйных у нашай рэспубліцы, тэхналогія іх вытворчасці добра асвоена, малако да таго ж забяспечвае раўнамернае паступленне грашовых сродкаў на працягу года. Вялікую ўвагу вырошчванню бульбы і агародніны надавалі буйныя фермы, дзе вышэйшы ўзровень механізацыі работ, а свінаводству — дробныя фермы, якія маюць запас рабочага часу.

Расходная частка бюджэту фермерскіх гаспадарак была менш даходнай на 24,8 працэнта. У ёй пераважалі выдаткі на матэрыяльна-тэхнічнае забеспячэнне: будаўніцтва і набыццё будматэрыялаў — 23,8, набыццё і рамонт тэхнікі — 20,6, пакупку іншых матэрыяльных каштоўнасцей — 30,1 працэнта. Такія расходы, як аплата паслуг, аказаных іншымі арганізацыямі, выдаткі на страхаванне, пенсіённае забеспячэнне і іншыя падаткі, аплата працэнтаў за крэдыты, плата за арэнду памяшканняў, машын і абсталявання, заработная плата наёмных асоб, не выходзілі з «калідора» ў 0,1—0,3 працэнта.

Калі ад аналізу адносных велічынь перайсці да абсалютных, стане зразумелым, што бюджэт, які сфарміраваўся ў фермерскіх гаспадарках, з'яўляецца жабрацкім. За год 168 ферм набылі толькі 6 трактароў, 4 грузавыя аўтамабілі і 1 бульбаўборачны камбайн. На пачатак бягучага года ў іх было 170 трактароў, 39 грузавых аўтамабіляў, 16 зернеўборачных і 4 бульбаўборачныя камбайны. У сярэднім на адну гаспадарку набыта каля 6 ц мінеральных угнаенняў, 9,4 ц дызельнага паліва і бензіну. Зрабіць закупкі рэсурсаў у колькасці, адпавядаючай патрабаванням тэхналогій вытворчасці, фермеры не маглі, таму што цэны на трактар склалі 43,7 млн. рублёў, грузавы аўтамабіль — 32,3, бульбаўборачны камбайн — 17,3. За 1 т камбікорму яны плацілі па 1,6 млн., дызельнага паліва — 1,4, бензіну — 2,1, мінеральных угнаенняў — 1-2 млн. рублёў. Фермерам таксама амаль «не па зубах» многія будаўнічыя матэрыялы.

Амаль 87 працэнтаў розніцы паміж даходамі і расходамі, якія склаліся на працягу года, выкарыстоўвалася на спажыванне членамі фермерскай гаспадаркі. Гэта іх грашовая частка аплаты працы. У разліку на адну ферму яна склала каля 3,5 млн. рублёў. Гэта вельмі мала, нават з улікам таго, што патрэбнасці фермерскай сям'і ў многіх відах харчавання, камунальных паслугах і шэрагу іншых аплачваюцца «натурай».

Што ж садзейнічае таму, што асноўная маса фермераў устойліва трымаецца за сваю гаспадарку і задавальняецца такім нізкім грашовым даходам? Перш за ўсё ўтрымлівае яе магчымасць самастойна весці вытворчасць, ажыццявіць спрадвечную мару селяніна быць гаспадаром свайго ўласнага, хай і невялікага прадпрыемства. Не менш значную ролю адыгрываюць эканамічныя абставіны, якія склаліся ў краіне, з беспрацоўем, што ўсё пашыраецца, прастоямі прамысловых прадпрыемстваў, шматмесячнымі затрымкамі заработнай платы, астранамічнымі цэнамі на прадукты харчавання і іншыя тавары першай неабходнасці, вострымі крымінальнымі абставінамі ў гарадах. Асаблівасці сялянскага жыцця і ўласная гаспадарка вызваляюць фермерскую сям'ю ад часткі гэтых турбот ці аслабляюць іх.

Не ўсе вытрымліваюць цяжкасці вядзення прыватнага аграрнага прадпрыемства, значная частка фермераў ліквідуюць свае гаспадаркі. Аднак асноўны касцяк трывала ўтрымлівае пазіцыі і штогод папаўняецца новымі энтузіястамі. Гэтаму спрыяе ўстойлівая надзея фермераў на тое, што іх цяжкасці мінуцца і настане час, калі ў дзяржаве працэс фермерызацыі ўвойдзе ў цывілізаванае рэчышча, сялянскія гаспадаркі не толькі будуць атрымліваць неабходную матэрыяльна-тэхнічную і фінансавую падтрымку, але і за кошт дзяржаўнага бюджэту будуць стварацца сядзібы, якія адпавядаюць высокім патрабаванням сусветных стандартаў. Здача іх у арэнду на пэўны тэрмін па конкурсу добра падрыхтаваным для вядзення самастойнай гаспадаркі суіскальнікам дазволіць выявіць з іх найбольш умелых і актыўных, якім сялянскія сядзібы і будуць прадавацца ў растэрміноўку з аплатай з даходаў, атрыманых ад фермерскай дзейнасці. Такі шлях фермерызацыі меркавалася выкарыстоўваць у пачатковы перыяд пасля аб'яўлення эканамічнай рэформы. Дзяржава выдзяляла 1,5 млрд. рублёў для будаўніцтва «пад ключ» не менш 10 тыс. фермескіх сядзіб. Але далейшыя падзеі ў эканоміцы выключылі магчымасць ажыццяўлення гэтай праграмы. Яна прыпынена, але не выключана. Па меры выхаду рэспублікі з эканамічнага крызісу, умацавання фінансавай гаспадаркі дзяржавы праграму стварэння сучасных фермерскіх гаспадарак неабходна аднавіць і пашырыць,ператварыўшы яе ў планамернае дзеянне на многія гады.

**Юрый КАРНІЛАЎ,**
**доктар эканамічных навук, прафесар.**
*г. Віцебск.*

*АКТУАЛІІ*

# АТРЫМАЙЦЕ ДЫПЛОМ... ПА КАМП'ЮТЭРЫ

***Ці ведае паважаны чытач, што такое завочная вучоба? Вядома.***

***А што такое «дыстанцыйная адукацыя»? Не. Але, здаецца, хутка будзе і ведаць, і сам вучыцца. З дапамогай спецыялістаў нямецкага універсітэта горада Хагена. Падпісана пагадненне аб супрацоўніцтве універсітэта з Беларускім рэспубліканскім інстытутам вышэйшай школы і гуманітарнай адукацыі.***

***Расказвае рэктар інстытута, акадэмік нацыянальнай інжынерна-тэхналагічнай акадэміі Віктар ГАЙСЁНАК.***

— Гэты так званы адкрыты універсітэт — адзіны ў Германіі, які дае завочную адукацыю. Пры чым шырока выкарыстоўваюцца тэхнічныя сродкі і сучасныя інфармацыйныя тэхналогіі — сетка Інтэрнет і электронная пошта, аўдыё- і відэаматэрыялы. Дзякуючы гэтаму завочная адукацыя, да якой у нас адносіны «плёвыя», набывае новую якасць, і ёсць сэнс называць яе «дыстанцыйнай». Тэрмін шырока ўжываецца на Захадзе.

Сумесна з Хагенскім універсітэтам і БДУ адкрылі ў нас інфармацыйны цэнтр дыстанцыйнага навучання. Нямецкія калегі перадаюць камплект апаратуры, інфармацыю на электронных носьбітах, літаратуру. У перспектыве на базе гэтага цэнтра мы жадалі б стварыць вучэбны цэнтр дыстанцыйнага навучання, дзе можна будзе без адрыву ад вытворчасці атрымліваць вышэйшую адукацыю, магчыма, нават засведчаную двума дыпломамі — нашым і нямецкім. Але гэта пакуль праблема на перспектыву.

**— Ці можна будзе з дапамогай дыстанцыйнага навучання зняць налёт абласной правінцыяльнасці з вышэйшай адукацыі?**

— Вядома. Хоць вось так, агулам, я б не крыўдзіў нашы абласныя ВНУ. У многіх з іх ёсць чаму павучыцца.

Са з'яўленнем глабальных сусветных сетак само паняцце правінцыяльнасць, гэтак жа як і завочнага навучання, старэе. Якая ж гэта адарванасць ад вядучых цэнтраў, калі праз Інтэрнет можна карыстацца любой бібліятэкай свету, уступаць у непасрэдны кантакт з любым выкладчыкам, вучоным, спецыялістам, мець доступ да нацыянальных баз даных, удзельнічаць у тэлеканферэнцыях? Пры гэтым зусім не мае значэння, дзе ты знаходзішся.

Уваходжанне ў глабальную сістэму сетак у нас у рэспубліцы толькі пачынаецца. Інстытут не стаіць убаку. У дадатак да праграмы міністэрства па адкрыццю сетак станцый Інтэрнета мы рэалізуем праект па ўваходжанню ў сеткі Гласнет, якая першапачаткова распрацоўвалася для Савецкага Саюза. У рамках нашай вочна-завочнай магістратуры плануем адкрыць карэспандэнцкія пункты нашага цэнтра дыстанцыйнага навучання ў абласных цэнтрах і практычнае ўжыванне новых інфармацыйных тэхналогій для падрыхтоўкі гуманітарыяў. Вялікую цікавасць да гэтага праекта выказаў Еўрапейскі цэнтр вышэйшай адукацыі, будзем весці перагаворы і з ім.

**— Наколькі я разумею, такім чынам вы зможаце вырашыць праблему падрыхтоўкі беларускіх спецыялістаў з дыпломамі еўрапейскага ўзору і праблему прызнання нашых дапломаў?**

— Сутнасць пытання мне зразумелая, але яго трэба ўдакладніць. Па-першае, сёння не існуе дыплома еўрапейскага ўзору, кожная краіна мае ўласныя дыпломы. Па-другое, калі гавораць: «Нашы дыпломы за мяжой не прызнаюцца», я пытаюся: «Дзе і кім не прызнаюцца? І якая працэдура гэтага прызнання?». Дапусцім, спецыяліст прыязджае на працу ў краіны ЕС і прад'яўляе свой дыплом аб вышэйшай адукацыі. Тут можа быць некалькі варыянтаў. Я думаю, ні ў каго не будзе праблем з дыпломамі Маскоўскага універсітэта, Санкт-Пецярбургскага...

**— Гарвардскага, Стэнфардскага...**

— ...так, і яшчэ Сарбоны, Кембрыджа, асабліва калі гэта дыпломы па дакладных навуках. У выпадку сумнення вам могуць параіць звярнуцца ў Цэнтр прызнання дыпломаў. У еўрапейскіх краінах існуе сетка такіх цэнтраў, якія працуюць пад эгідай Савета Еўропы і ЮНЕСКА і называюцца — Educational National Information Centres. З дапамогай гэтай сеткі няцяжка высветліць, ці адпавядае, дапусцім, дыплом БДУ дыплому універсітэта Сарбоны. Робіцца гэта праз параўнанне вучэбных планаў і спектра дысцыплін. Рэальны прыклад, з якім я сутыкнуўся ў Швецыі, — дыплом БДІНГ узору 1984 г. не быў прызнаны шведскім ENIS з-за перагружанасці вучэбнага плана дысцыплінамі з ідэалагічнай накіраванасцю. Дыплом жа Наваполацкага політэхнічнага «прайшоў» без праблем...

Але гэта яшчэ не ўсё. Нават калі зроблена заключэнне аб эквівалентнасці, дзяржава можа і не прызнаць дыплом. Ёсць кан'юнктура на рынку працы, нацыянальныя інтарэсы, абарона інтарэсаў грамадзян.

**— Тут будзе дарэчы хоць трошкі канкрэтыкі — для многіх цікавай.**

— Напрыклад, у Германіі для працы юрыстам ці ўрачом трэба абавязкова здаць дзяржаўны экзамен. Такім чынам краіна абараняе інтарэсы сваіх грамадзян ад дрэнна падрыхтаваных спецыялістаў. Без гэтага «чужы» дыплом ніколі не прызнаюць.

Вяртаючыся да тэмы, хачу адзначыць, што мы цяпер уваходзім у цывілізаваную сістэму прызнання дыпломаў, і адно з патрабаванняў для ўваходжання — наяўнасць нацыянальнага цэнтра прызнання дыпломаў, як гэта прадугледжана канвенцыямі ЮНЕСКА.

На пачатку гэтага года нацыянальны цэнтр прызнання дыпломаў быў створаны ў рэспубліцы на базе нашага інстытута. Яго задача — стварэнне інфармацыйнага банка аб нашай і іншых сістэмах вышэйшай адукацыі, распаўсюджванне такой інфармацыі сярод іншых цэнтраў і міжнародных арганізацый. У бліжэйшы час ён павінен распрацаваць канкрэтную працэдуру ацэнкі дыпломаў і азнаёміць з ёю іншыя цэнтры. У недалёкай перспектыве — правядзенне кансультацый аб магчымасці прызнання нашых дыпломаў у розных краінах.

**— Мяркуючы па ўсім, цяпер ідзе дастаткова плаўная, эвалюцыйная рэформа вышэйшай школы...**

— Сёння мы шукаем новыя падыходы да арганізацыі і зместу вышэйшай адукацыі. У прыватнасці, шляхі пераходу на шматузроўневую сістэму падрыхтоўкі спецыялістаў з увядзеннем званняў бакалаўраў і магістраў. Пераход на такую схему навучання — не даніна модзе і не бяздумнае запазычанне чужога вопыту. Гэта правераны сусветным вопытам шлях стварэння гібкай сістэмы вышэйшай адукацыі, якая ўлічвае патрэбнасці рынку працы. Галоўнае тут не званне — бакалаўр, магістр, доктар, а пераход да ступеньчатай сістэмы адукацыі, якая дапускае паглыбленую фундаментальную падрыхтоўку на першай ступені і павелічэнне ступені індывідуалізацыі і спецыялізацыі навучання на кожнай наступнай.

**— Як вы, спецыяліст, ацэньваеце дзейнасць недзяржаўных ВНУ?**

— З аднаго боку, яны даюць дадатковыя магчымасці маладым людзям атрымаць вышэйшую адукацыю. Недзяржаўныя ВНУ вельмі гібка рэагуюць на патрабаванні рынку працы. У гэтым іх моц. Немалаважная і ліквідацыя манаполіі дзяржаўных інстытутаў.

Недахопы ж звязаны з тым, што значная частка такіх ВНУ не мае ўласнай матэрыяльнай і кадравай базы. Такое можна было дапусціць на першым часе, але наўрад ці прымальна як сістэма. У рэшце рэшт гэта адбіваецца на якасці адукацыі. Як вынік, сёння толькі невялікая колькасць недзяржаўных ВНУ мае права выдаваць дыпломы дзяржаўнага ўзору.

На мой погляд, патрэбны спецыяльныя меры па арганізацыйнай і фінансавай падтрымцы недзяржаўных ВНУ, каб дапамагчы тым, хто гатоў прыняць патрабаванні дзяржаўных стандартаў па забеспячэнню якасці падрыхтоўкі спецыялістаў. Ведаю, што такая пазіцыя не ўсімі падтрымліваецца і прымаецца. Але ў недзяржаўных ВНУ вучацца дзеці, бацькі якіх — падаткаплацельшчыкі, і яны маюць права спадзявацца на падтрымку дзяржавы ў атрыманні іх дзецьмі вышэйшай адукацыі.

**Гутарку правёў Уладзімір ТРАЦЦЯКОЎ.**

# УСТУПЛЕННЕ Ў НАТО — НЕ БЯСПЛАТНАЯ ПАЕЗДКА

**З Мінска справа пашырэння НАТО бачыцца неяк аднабакова і спрошчана: асобныя краіны з былога сацлагера са скуры лезуць пад натаўскі «парасон», Расія ж рашуча выступае супраць. Яна, здаецца, мабілізавала ўвесь свой міжнародны аўтарытэт і не шкадуе сіл і энергіі, каб не дапусціць пашырэння.**

Вакол гэтай праблемы ў свеце ўзнялася, і трэба адзначыць, ужо працяглы тэрмін не супакойваецца дыскусія. У ходзе яе абмяркоўваюцца пераважна палітычныя і ваенныя наступствы мяркуемага павелічэння колькасці членаў альянсу. «За кадрам», тым часам, застаюцца іншыя аспекты пашырэння гэтай арганізацыі. А яны, як паказалі сустрэчы і гутаркі беларускіх журналістаў з прадстаўнікамі НАТО ў Брусэлі, пагражаюць вырасці ў вялікую і малапрыемную для краін-кандыдатаў праблему. І ў першую чаргу — фінансавую.

З самага пачатку дзяржавам Усходняй і Цэнтральнай Еўропы, якія заявілі аб сваім жаданні далучыцца да НАТО, далі зразумець, што ўступленне ў Саюз звязана з прыняццем на сябе значных фінансавых абавязкаў. Новыя члены будуць абавязаны ўносіць свой уклад у фінансаванне сумесных натаўскіх праграм. У Брусэлі ўжо сёння прадбачаць, што пашырэнне прывядзе да новых відаў дзейнасці, якія запатрабуюць дадатковых фінансавых рэсурсаў. Узрасце, напрыклад, ваенны бюджэт арганізацыі. Ды і ў самой штабкватэры стане цесна — узнікне неабходнасць у новых службовых памяшканнях, бо вырастуць штаты міжнароднага сакратарыята і міжнароднага штаба арганізацыі.

Усё гэта выкліча немалыя дадатковыя расходы. Але на падобныя «дробязі» краіны-прэтэндэнты пакуль не звяртаюць належнай увагі. Цяпер ім галоўнае — вырашыць у прынцыпе пытанне членства ў НАТО, а потым усё астатняе неяк само сабой уладкуецца.

**НАТО** — ваеннае аб'яднанне капіталістычных краін, у якім прынята, што кожны павінен плаціць за сябе. І адступаць ад гэтага правіла там не збіраюцца.

На думку італьянца Марка Карнавале, супрацоўніка палітычнага ўпраўлення штабкватэры НАТО ў Брусэлі, Польшча, Чэхія, Венгрыя, Румынія, Славенія, Албанія, краіны Прыбалтыкі ўступленне ў НАТО разглядаюць як бясплатны варыянт умацавання сваёй бяспекі. Яны спадзяюцца, што амерыканцы за ўсё заплацяць.

— Гэта памылковы погляд, бо амерыканцы не збіраюцца гэтага рабіць, — гаворыць М. Карнавале. — Таму нам даводзіцца марнаваць шмат часу на падрабязнае тлумачэнне таго, што калі вышэйназваныя краіны мы і запросім удзельнічаць у НАТО, то гэта не будзе бясплатная паездка. Гэта будзе вельмі дарагая гульня з пункту погляду гатоўнасці новых членаў да ваеннага ўзаемадзеяння.

З апошнім, відавочна ўжо сёння, праблема паўстане надзвычай вострая. Зусім няпроста, аказваецца, спалучыць натаўскую ваенную машыну з армейскімі падраздзяленнямі краін-кандыдатаў. Нават у дробязях узнікаюць пытанні, напрыклад, свабоднае валоданне мовай афіцэрамі будучых краін-членаў.

Але галоўная перашкода — ваенна-тэхнічнага характару. Войскі мяркуемых саюзнікаў узброены рознай тэхнікай, карыстаюцца неаднолькавымі сістэмамі сувязі, і ўвогуле функцыяніруюць інакш, чым натаўскія сілы, якія ў сваю чаргу таксама ніяк не могуць дасягнуць адзінства стандартызацыі. Самі натаўцы называюць чатыры прычыны гэтага: ЗША, Англія. Францыя і Германія.

Кожная краіна цягне коўдру на сябе. Нам расказалі такі прыклад. У ФРГ некалькі гадоў назад распрацавалі і вырабілі выдатныя гусеніцы для танкаў НАТО. Але амерыканцы, якія тады стваралі свой уласны танк, адмовіліся ад нямецкага «абутку», бо не захацелі пазбаўляць сваіх вытворцаў выгаднага заказу.

Падобных прыкладаў супярэчнасцей у НАТО шмат. І не толькі па тэхнічных пытаннях. Так, на працягу двух гадоў ЗША і Францыя блакіравалі адзін аднаго, вялі палітычны гандаль, пакуль нарэшце не дамовіліся.

Тым не менш у НАТО сур'ёзна ставяцца да наладжвання аператыўнага ўзаемадзеяння з будучымі новымі членамі. Яны, на погляд прыхільнікаў ідэі пашырэння, павінны прыкласці ўсе намаганні для дасягнення адпаведнасці стандартам аператыўнага ўзаемадзеяння, асабліва ў галіне абсталявання для камандавання, кантролю і сувязі, паспяхова інтэгрыравацца ў штабы НАТО. Новым членам абяцаецца магчымасць максімальна поўна ўдзельнічаць у разведвальных працэсах НАТО, мяркуецца іх удзел у ваенных вучэннях. Праўда, пакуль невядома, як гэта будзе ажыццяўляцца на практыцы.

Зразумела іншае — навічкам-краінам прыйдзецца ўшчыльную заняцца мадэрнізацыяй узброеных сіл, што для іх не вельмі моцных, мякка кажучы, эканомік стане суровым выпрабаваннем. Бо прыйдзецца параўнальна танную зброю савецкай вытворчасці замяніць на новую і дарагую заходнюю. Не выключана, што падобнае прывядзенне ў адпаведнасць з натаўскімі стандартамі выкліча ў Расіі імкненне мадэрнізаваць свае ўзброеныя сілы. І хто ведае, ці не перарасце гэта спаборніцтва ў новую гонку ўзбраенняў. Так, яе сёння эканоміка Расіі не вытрымае. А заўтра, пры ўмове, што там «пойдуць рэформы»?

Гэта што датычыць матэрыяльных затрат. Цяпер пра сусветную палітычную цану пашырэння. «Можна зразумець жаданне чатырох кандыдатаў, якія нядаўна вызваліліся ад дыктату Масквы, апынуцца ў абдымках НАТО як гаранта іх незалежнасці», — пішуць у артыкуле «Пашырэнне НАТО — марш глупства» Д. Фішэр і У. Потэр, амерыканскія палітолагі, прафесары Мантрэйскага інстытута міжнародных даследванняў у новым беларускім часопісе па праблемах знешняй палітыкі «Вектар». Але, заўважаюць аўтары, рускія зусім не разумеюць, якая выгада для ЗША ад перамяшчэння граніц НАТО бліжэй да Масквы. Няўжо толькі ў жаданні пэўных колаў Амерыкі нанесці «удар міласэрнасці», г. зн. разваліць Расійскую Федэрацыю і назаўсёды ліквідаваць усялякую магчымасць для Расіі калі-небудзь аспрэчваць панаванне ЗША?

На думку амерыканскіх палітолагаў, за кароткатэрміновыя выгады пашырэння НАТО Захад заплаціць вельмі дарагую палітычную цану. Хутчэй за ўсё расійская Дума адмовіцца ратыфікаваць дагавор СНВ-2, што стане цяжкім ударам па надзеям свету на працяг ядзернага раззбраення.

**Леанід ЛАХМАНЕНКА.**

## ПАСЛІЗНУЛІСЯ НА... ТЫТУНІ І СПІРЦЕ

**Трывожныя лічбы прывялі работнікі Гомельскага ўпраўлення падатковых расследаванняў. За паўтара месяца яны ў час праверкі дзевяцісот суб'ектаў гаспадарання выявілі каля чатырохсот парушэнняў рэалізацыі і захавання алкагольных і тытунёвых вырабаў.**

У выніку гэтага была ўзбуджана адна крымінальная справа, адабраны дзесяткі тысяч цыгарэт, папіросаў, бутэлек спіртных напояў на 136 мільёнаў рублёў, спагнана больш за 32 мільёны рублёў штрафаў.

Адзін прыватны прадпрымальнік, напрыклад, спрабаваў пусціць у продаж шэсць тысяч пачак імпартных тытунёвых вырабаў без акцызных марак, а другі — на тысячу меней. Не пашанцавала і двум грамадзянам Украіны, у якіх работнікі ўпраўлення сумесна з мытнікамі адабралі 550 літраў спірту, які яны везлі ў Гомель нелегальна, без адпаведнага афармлення.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

## ПАШЫРАЮЦЦА ДЫПЛАМАТЫЧНЫЯ СУВЯЗІ

**Працягваецца прызнанне ў свеце суверэннай Беларусі. Усё больш краін выказваюць жаданне падтрымліваць дыпламатычныя адносіны з нашай дзяржавай. Учора рэдакцыя атрымала наступны дакумент.**

### Сумеснае камюніке аб устанаўленні дыпламатычных адносінаў паміж Рэспублікай Беларусь і Дзяржавай Бахрэйн

Рэспубліка Беларусь і Дзяржава Бахрэйн, жадаючы ўмацоўваць дружалюбныя адносіны і развіваць двухбаковае супрацоўніцтва ў розных галінах, якія маюць цікавасць для абедзвюх краін, будучы зацікаўленымі ў развіцці адносінаў паміж дзвюма краінамі на аснове ўзаемнай павагі, суверэнітэту, тэрытарыяльнай цэласнасці і неўмяшання ва ўнутраныя справы адна адной, пацвярджаючы сваю прыхільнасць да мэтаў і прынцыпаў Арганізацыі Аб'яднаных Нацый у кансалідацыі міжнароднага міру і бяспекі, дамовіліся ўстанавіць дыпламатычныя адносіны на ўзроўні паслоў у адпаведнасці з палажэннямі Венскай канвенцыі аб дыпламатычных зносінах ад 18 красавіка 1961 года.

***Бахрэйн — гэта 105-я па ліку краіна, з якой Беларусь устанавіла дыпламатычныя сувязі.***

**Леанід ТУГАРЫН.**

## ФУТБОЛ

## САПЕРНІКІ ВЫЗНАЧАНЫ

**Мінулая субота прайшла ў Еўропе зноў пад знакам футбола: у Жэневе адбылася жараб'ёўка адборачных спаборніцтваў еўрапейскіх клубных турніраў папярэдняга этапа: ў Кубку УЕФА (54 каманды), Лізе чэмпіёнаў (16 каманд) і Кубку кубкаў (34 каманды).**

Чэмпіёну рэспублікі «Дынама» ў розыгрышы Кубка УЕФА трапіўся ў сапернікі ісландскі клуб «Багеманс». Першы матч пройдзе ў Ісландыі 17 ліпеня, а гульня ў адказ адбудзецца ўжо 24 ліпеня ў Маладзечне.

Падначаленым Віктара Сокала, футбалістам «Дынама-93», якія таксама гуляюць у Кубку УЕФА, дастаўся малдаўскі клуб «Цілігул». Першую гульню яны праводзяць дома.

Мазырскаму МВКЦ у розыгрышы Кубка кубкаў трапіўся вядомы ісландскі клуб «Рэйк'явік». Тут папярэднія гульні пройдуць 8 і 22 жніўня. Першую сустрэчу мазыране праводзяць на выездзе ў Магілёве.

### КАМЕНТАРЫ СПЕЦЫЯЛІСТАЎ

**Іван Шчокін, галоўны трэнер мінскага «Дынама».**

Ісландскі «Багеманс» — сапернік не з лёгкіх, аднак так выпала па жэрабю.

Праўдзіва кажучы, пра ісландскі футбол у мяне не вельмі многа інфармацыі. Так што прыйдзецца гуляць «ўсляпую».

Паколькі Ісландыя знаходзіцца недалёка ад Вялікабрытаніі, то, відаць, і нашы сапернікі, хутчэй за ўсё, будуць гуляць у англійскім стылі. Таму нам прыйдзецца нялёгка, асабліва ў першым матчы на выездзе. Думаю, на класе гульні адаб'ецца адсутнасць чатырох ключавых ігракоў: Качуры, Бялькевіча, Хацкевіча і Штанюка.

Але ж мы не губляем аптымізму, каманда настроена змагацца да канца. Мэты і задачы нашы ў еўрапейскіх кубках заўсёды адны і тыя ж: прайсці ў наступны этап спаборніцтваў.

Хацелася б, канешне, паўтарыць поспех мінулага года і прайсці ў трэці круг розыгрышу. Гэта — задача-мінімум. А задача-максімум — прайсці яшчэ далей.

**Віктар Сокал, галоўны трэнер «Дынама-93».**

Я не прыхільнік падбіраць сабе каманды ў сапернікі. Што даталіся па жэрабю — хай так і будзе. Пра малдаўскі «Цілігул», прызнаюся, ведаю няшмат. Бадай, малдаване ведаюць пра нас больш, паколькі за рулём каманды з Цірaспаля — некалі вядомы беларускі футбаліст і трэнер Анатоль Байдачны.

Думаю, што гэты фактар нік не паўплывае на ход гульні. Ігракі «Дынама»-93 поўныя аптымізму і гульнявога запалу, каб прайсці ў наступны этап спаборніцтваў.

**Анатоль Юрэвіч, галоўны трэнер мазырскага МВКЦ.**

Ісландскі «Рэйк'явік», які нам трапіўся ў сапернікі, — добра вядомы клуб у Еўропе. Не сумняваюся, што аматары футбола памятаюць, як у мінулым годзе ісландцы, выступаючы ў еўракубках, першы бар'ер прайшлі паспяхова, абыграўшы двойчы каманду з Ліхтэнштэйна — 3:2 і 2:0. Спатыкнуліся футбалісты з вострава гейзераў толькі па англійскім «Эвертоне». Праўда, прайгралі дастойна — 2:3 і 1:3.

Так што ігракі «Рэйк'явіка» ўжо маюць вопыт выступленняў на міжнароднай арэне, а гэта многа значыць.

Ведаю, што ў саставе каманды тры футбалісты нацыянальнай зборнай Ісландыі, некалькі ігракоў маладзёжнай зборнай, а таксама пара легіянераў.

Кіруе клубам югаслаўскі трэнер, а футбольныя настаўнікі з гэтай краіны добрыя знаўцы сваёй справы.

Праўда, не думаю, што гэтыя фактары паўплываюць на ход падрыхтоўкі футбалістаў МВКЦ. Мы сур'ёзна рыхтуемся да паядынкаў і разлічваем, што наш дэбют на футбольных палях Еўропы акажацца ўдалым.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

*ПАМЯЦЬ*

# СУХІ ВЯРНУЎСЯ НА РАДЗІМУ

**У мінулым годзе авіяцыйны свет адзначаў 100-годдзе з дня нараджэння геніяльнага авіяканструктара, слыннага сына зямлі беларускай Паўла Сухога. Адзначаў у Гомелі. І толькі сёлета імя сусветна вядомага канструктара-авіятара было вернута зямлі, якая дала яго свету — Глыбоччыне.**

Менавіта тут, у горадзе Глыбокае, на Віцебшчыне (а не ў аднайменнай вёсцы Гомельскай вобласці, як запісана ў энцыклапедыі), 10 ліпеня 1895 года ў сям'і настаўніка народнага вучылішча нарадзіўся сын Павел. Хрысціў хлопчыка глыбоцкі святар Іларыён Вільяноўскі ў праваслаўнай царкве.

Летам 1896 года сям'я Сухіх выехала ў Свянцяны. Наўрад ці тады хто мог падумаць, што праз некаторы час пра гэтага вясковага хлапчука даведаецца і загаворыць увесь свет.

За сваё жыццё Павел Сухі стаў аўтарам 50 арыгінальных самалётаў, больш за 30 з якіх былі выраблены і выпрабаваны. На яго машынах устанаўлівалі сусветныя рэкорды скорасці і вышыні палёту, яны бязлітасна нішчылі ворага ў гады Вялікай Айчыннай, самалёты з маркай «СУ» добра вядомыя і сёння. Акрамя ВПС Беларусі, Расіі і іншых краін СНД карыстаюцца «Сушкамі» і вайскоўцы Польшчы, Венгрыі, Ірака, Сірыі, Індыі, Кітая... Сябры Паўла Восіпавіча сведчаць, што быў генеральны канструктар чалавекам надзвычай сціплым, неназойлівым. Аднак талент браў сваё: яркая асоба прыкметна вылучалася сярод канструктараў, вынаходнікаў.

Сталася так, што да апошняга часу беларусы пра Сухога амаль нічога не ведалі. Няма чаго тады здзіўляцца і біяграфічнай памылцы наконт радзімы авіятара, што трапіла ў энцыклапедыю. А тлумачыцца ўсё вельмі проста. Паводле сведчання дачкі, у той час, калі і А. Тупалеў і С. Каралёў былі рэпрэсіраваны, Павел Восіпавіч, маючы перспектыву трапіць у лік «заходнікаў», назваў месцам свайго нараджэння аднайменную вёску недалёка ад Гомеля. Памылку заўважылі і выправілі землякі Сухога — вучні школы № 1 г. Глыбокае на чале з настаўніцай Тэрэзай Рабізо, якія стварылі ў 1985 годзе музей авіяканструктара. Зазначу, што «Звязда» і раней узнімала гэту тэму, аднак шырокага рэзанансу публікацыі не атрымалі.

І вось нарэшце, праз столькі гадоў ліквідавана яшчэ адна гістарычная несправядлівасць, белая пляма — на радзіме геніяльнага авіяканструктара ў горадзе Глыбокае адкрыты памятны сімвал — самалёт СУ-17, прысвечаны стваральніку. «Прызямлілася» жалезная птушка на ўездзе ў горад — на скрыжаванні трох дарог — на Мінск, Полацк і Вільнюс. Можна з упэўненасцю сцвярджаць, што СУ-17 стане сімвалам, візітнай карткай Глыбокага. Сімвалічны і нумар на борце знішчальніка — 101 — менавіта ў 101-ю гадавіну з дня нараджэння Сухога ўдалося даставіць адно з яго «дзецішчаў» на радзіму канструктара.

Урачыстасці з нагоды адкрыцця памятнага сімвала-самалёта СУ-17 авіяканструктару Паўлу Сухому на яго радзіме прайшлі ў нядзелю. Арганізатарам свята выступіў АКБ «МінскКомплексБанк», які і падарыў гораду самалёт. У арганізацыі ўрачыстасцей і святкаванні ўзялі ўдзел старшыня праўлення «МінскКомплексБанка» Яўген Краўцоў і старшыня савета банка Аляксандр Кірнажыцкі, дырэктар Баранавіцкага авіярамонтнага завода падпалкоўнік Анатоль Бранько, намеснік камандуючага ваенна-паветранымі сіламі Беларусі генерал-маёр Дзмітрый Раманюк, старшыня Глыбоцкага райвыканкома Віктар Сініцкі і інш.

На адкрыццё памятнага сімвала сабралася шмат глыбачан, прыехалі прадстаўнікі рэспубліканскай прэсы. Увесь час гучала музыка, віншаванні, словы падзякі... Быў салют, паказальныя скачкі з парашутамі. Свята ператварылася ў сапраўднае народнае гулянне, якое завяршылася глыбокай купальскай ноччу.

**Сяргей ПРОТАС.**

# Васіль ВІТКА

**5 ліпеня 1996 года памёр вядомы беларускі пісьменнік, лаўрэат Дзяржаўнай прэміі БССР, заслужаны дзеяч культуры Рэспублікі Беларусь Васіль Вітка (Цімох Васільевіч Крысько). З жыцця пайшоў таленавіты майстра паэтычнага слова, публіцыст, перакладчык, педагог, шчыры працаўнік на ніве беларускай культуры.**

Нарадзіўся Васіль Вітка 16 мая 1911 года ў вёсцы Еўлічы Слуцкага раёна Мінскай вобласці. Пасля заканчэння Слуцкай прафтэхшколы (1928) працаваў слесарам на Бабруйскім дрэваапрацоўчым камбінаце, у заводскай шматтыражцы, у бабруйскай і жлобінскай райгазетах, у рэдакцыях «Чырвонай змены», «Літаратуры і мастацтва», часопісе «Полымя рэвалюцыі», сакратаром Беластоцкага абласнога аддзялення саюза пісьменнікаў БССР. Падчас Вялікай Айчыннай вайны — рэдактар масавых выданняў для акупіраваных раёнаў, супрацоўнік газет «Савецкая Беларусь», сатырычных часопісаў «Партызанская дубінка» і «Раздавім фашысцкую гадзіну». З дня ўтварэння часопіса «Беларусь» (1944) працаваў яго адказным сакратаром, а з 1948 года — намеснікам галоўнага рэдактара, а затым на працягу шасці гадоў — галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва». У 1957—1974 гадах — галоўны рэдактар часопіса «Вясёлка», з 1974 па 1987 год — член сцэнарна-рэдакцыйнай калегіі кінастудыі «Беларусьфільм».

Друкавацца пачаў у 1928 годзе. Першы зборнік вершаў «Гартаванне» быў выдадзены ў 1944 годзе ў Маскве. Затым выходзілі з друку больш двух дзесяткаў кніг Васіля Віткі, сярод якіх зборнікі паэзіі «Поўдзень», «Вернасць», «Ружа і штык», «Паверка», «Праводзіны лета», «Вышыні святла», «Случчына», «Трэція пеўні», паэтычныя кнігі для дзяцей «Вавёрчына гора», «Буслінае лета», «Казка пра цара Зубра», «Дударык», «Азбука Васі Вясёлкіна», «Чытанка-маляванка», «Хто памагае сонцу», «Ладачкі-ладкі» і многія іншыя. Пра разнабаковасць таленту Васіля Віткі сведчаць і кнігі літаратурна-крытычных і публіцыстычных артыкулаў на маральна-этычныя і выхаваўчыя тэмы: «Дзеці і мы», «Урокі», «Азбука душы». Ён адзін з аўтараў чытанак «Роднае слова» для 1, 2 і 3 класаў. Яго пяру належыць зборнік сатыры і гумару «Для дома, для альбома і трохі для эпохі». Неаднаразова выходзілі выбраныя творы пісьменніка. Ён — аўтар п'ес «Прамень будучыні» і «Шчасце паэта». Вядомы Васіль Вітка і як перакладчык твораў М. Салтыкова-Шчадрына, У. Маякоўскага, В. Сухамлінскага, іншых рускіх, украінскіх, латышскіх, балгарскіх і польскіх пісьменнікаў.

Творчасць Васіля Віткі атрымала прызнанне як у Беларусі, так і далёка за яе межамі. У 1972 годзе пісьменніку была прысуджана Дзяржаўная прэмія БССР за кнігі для дзяцей, а ў 1978 годзе ён узнагароджаны міжнародным ганаровым дыпломам імя Х.-К. Андэрсэна.

Яго заслугі ў літаратуры адзначаны ордэнам Кастрычніцкай Рэвалюцыі, двума ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, двума — «Знак Пашаны», медалём Францішка Скарыны і іншымі медалямі. У 1970 годзе яму нададзена званне заслужанага дзеяча культуры Беларускай ССР.

Жыццё і творчасць Васіля Віткі — прыклад самаадданага служэння роднай Бацькаўшчыне, свайму народу. На яго творах выхоўвалася і будзе выхоўвацца не адно пакаленне беларусаў. Памяць пра выдатнага пісьменніка і чалавека будзе вечна жыць у нашых сэрцах.

**У. Русакевіч, У. Бельскі, А. Сасноўскі, В. Стражаў, А. Слука, М. Падгайны, У. Ярмошын, М. Матусевіч, Р. Барадулін, Я. Брыль, Н. Гілевіч, І. Навуменка, І. Шамякін, Э. Агняцвет, В. Адамчык, С. Андраюк, М. Аўрамчык, В. Блакіт, Г. Бураўкін, А. Вярцінскі, А. Вольскі, М. Гіль, У. Гніламёдаў, С. Грахоўскі, Г. Далідовіч, А. Дудараў, А. Жалязоўскі, А. Жук, С. Законнікаў, В. Зуёнак, В. Каваленка, А. Кудравец, У. Ліпскі, М. Лужанін, В. Лукша, П. Макаль, У. Някляеў, У. Паўлаў, Г. Пашкоў, А. Пісьмянкоў, І. Пташнікаў, А. Разанаў, А. Русецкі, Я. Сіпакоў, В. Супрунчук, У. Юрэвіч.**

# ВЯРХОЎНЫ САВЕТ МАЕ НАМЕР АДСТОЙВАЦЬ СВАЕ ПРАВЫ...

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Паводле меркаванняў супрацоўнікаў «Народнай газеты» Ачарэтняга і Навоева, пісьмо калектыву газеты да Прэзідэнта з просьбай аб акцыяніраванні было сфальсіфікавана. Сяргей Навоеў зазначыў, што адпаведнага сходу ў калектыве не было, што не ствараўся прэзідыум падчас рабочага абмеркавання гэтай праблемы, не вёўся пратакол, не было галасавання. Ды і абмяркоўваўся зварот не да Прэзідэнта, а да Вярхоўнага Савета. На гэтай падставе юрыст «Народнай газеты» заключыў, што Міхаіл Шыманскі зрабіў службовы падлог, што з'яўляецца крымінальным злачынствам. «Мы звярнуліся ў Вярхоўны Савет, Пракуратуру, Адміністрацыю Прэзідэнта з просьбай прыняць адпаведныя меры адносна гэтай фальшыўкі і не даць магчымасці Шыманскаму падмануць Прэзідэнта. Я думаю, што Прэзідэнт сам адкліча свой указ, калі даведаецца пра падаплёку гэтых падзей», — зазначыў Сяргей Навояў.

Дэпутат Вячаслаў Герасіменка расцаніў дзеянні выканаўчай улады як жаданне адабраць ад Вярхоўнага Савета магчымасць даводзіць да грамадзян сваю пазіцыю, спаслаўшыся на тое, што тэлебачанне і радыё практычна не даступныя парламенту. Дэпутаты зазначылі, што яны будуць ініцыіраваць зварот у Пракуратуру і Гаспадарчы суд з тым, каб абараніць інтарэсы парламента, а паралельна будуць весці работу па назначэнню рэдактара «Народнай газеты». Адзначалася таксама, што сама працэдура акцыяніравання вельмі складаная, толькі рэгістрацыя ЗАТ патрабуе не менш месяца, тым больш што ёсць і канкрэтныя фінансавыя прэтэнзіі да «Народнай газеты» — у тым ліку і ў першую чаргу ад яе ўладальніка — Вярхоўнага Савета, які заснаваў гэтае выданне і фінансаваў пачатак яго дзейнасці.

Пытанне аб статусе «Народнай газеты» будзе пастаўлена на бліжэйшых пасяджэннях Вярхоўнага Савета на гэтым тыдні. Як зазначыў Уладзімір Нісцюк, іх камісія будзе прапаноўваць Вярхоўнаму Савету правесці праверку выканання законаў падчас усіх падзей, звязаных з гэтым канфліктам паміж выканаўчай і заканадаўчай уладай. На думку дэпутатаў, інцыдэнт з «Народнай газетай» справакаваны менавіта для таго, каб кінуць парламент на канфрантацыю з выканаўчай уладай, а таксама сарваць парламенцкія слуханні па праблемах эканомікі.

Як паведаміла прэс-сакратар Старшыні Вярхоўнага Савета Вераніка Трызна, Сямён Шарэцкі, гаворачы аб гэтым выпадку, прызнаў непрыстойным, калі адна галіна ўлады наступае на ногі другой галіне, што Вярхоўны Савет не можа заставацца без свайго друкаванага органа, таму ў бліжэйшым часе будзе вырашаць гэтую праблему. Па ініцыятыве Сямёна Шарэцкага былі падрыхтаваны адпаведныя матэрыялы для разгляду законнасці указа аб акцыяніраванні «Народнай газеты» ў Канстытуцыйным судзе. Сямён Шарэцкі падтрымлівае ўключэнне пытання аб незаконным акцыяніраванні «Народнай газеты» ў павестку дня парламента, — паведаміла яго новы прэс-сакратар Вераніка Трызна.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# «МЫ КІРУЕМСЯ УКАЗАМ ПРЭЗІДЭНТА»

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)**

састаў, змест публікацый і г. д. Такога не было нават і ў савецкія часы, калі існавалі сакратары па ідэалогіі і цэнзура. Што датычыць канкрэтна прыведзеных меркаванняў дэпутатаў, то я хацеў бы падкрэсліць, што за гэтыя сто дзён з Вярхоўнага Савета, канешне, маглі сюды прыйсці і параіцца з рэдактарам па сітуацыі. Гэта не было зроблена. Усё гэта напружанне накоплівалася не за час маёй працы, а за ўсе апошнія гады. Справа ў тым, што фармальна «Народная газета» належала Вярхоўнаму Савету, а фактычна — пэўным сілам, якіх заўзята пратэжыраваў Іосіф Сярэдзіч. Тое ж самае адбывалася і пры Галко. Зразумела, што гэтыя сілы не могуць змірыцца з тым, што прыходзіць іншы чалавек, які займае крыху іншы пункт гледжання ў разуменні гэтых пытанняў. Што датычыцца абмеркаванняў у Вярхоўным Савеце кандыдатур Галко, Юнчыка, то калі гэта стала вядома ў нашым калектыве, ветэраны «Народнай газеты», якія даўно працуюць тут, выступілі з ініцыятывай сходу. Тое, што гэты сход быў, гэта відавочна. Хто хоча разбірацца, хай прыходзіць, глядзіць пратакол, распытвае сведкаў. Сход адназначна выказаўся за ажыццяўленне даўняй мары калектыву, таго намеру, які ініцыіраваў яшчэ Сярэдзіч і падтрымліваў Галко — аб прыватызацыі газеты, шляхам акцыяніравання. Сход быў праведзены вельмі хутка, усё было афармлена належным чынам.

**— Такім чынам ваш юрыст Навоеў хлусіць?**

— Наш юрыст не быў на гэтым сходзе, ён у нас часовы, працуе на дагаворнай аснове. Усё на сходзе вялося належным чынам, у нас ёсць адпаведныя пратаколы і той, хто цікавіцца гэтым, можа не апірацца на сведчанні Навоева і Ачарэтняга, якіх ніхто, дарэчы, не ўпаўнаважваў быць на пасяджэнні гэтай камісіі. Я вельмі здзівіўся, што Вярхоўны Савет прымае гэтых хадатаяў, якія ўжо апублікавалі шмат бруднага ў апазіцыйных выданнях, якія выступілі па радыё «Свабода» з ачарненнем гэтай сітуацыі... Хай паважаныя дэпутаты прыйдуць сюды, паглядзяць дакументы, пагутараць з членамі калектыву, і ім скажуць, што Навояў і Ачарэтні, мякка кажучы, усё выдумваюць.

**— Вы апісалі палітычны пункт гледжання на гэтую праблему. Ці не маглі б вы падысці з юрыдычнага боку? Як па закону павінна рабіцца акцыяніраванне, хто павінен вырашаць і г. д.?**

— Мы звярнуліся на кіраўніка дзяржавы, разумеючы, што ў гэтай выбухованебяспечнай сітуацыі звяртацца ў Вярхоўны Савет, які ўжо нас шмат ігнараваў, было проста бескарысна. Таму калектыў звярнуўся да Прэзідэнта.

**— Скажыце, калі ласка, што вы зробіце, калі Вярхоўны Савет назначыць свайго галоўнага рэдактара «Народнай газеты»?**

— Я разумею так: ёсць на сёння ўказ Прэзідэнта, кіраўніка дзяржавы, аб змяненні статуса «Народнай газеты», і хай Вярхоўны Савет вырашае гэта пытанне на патрэбных узроўнях улады, разам з Прэзідэнтам. Рашэнне гэтае прымалася Прэзідэнтам і таму ўсякая апеляцыя праз прэсу, праз суды павінна ісці ў яго адміністрацыю.

**— Вы ўжо не пішаце на газеце «Орган Вярхоўнага Савета», а ці ёсць у вас адпаведныя дакументы з Дзяржкамдруку аб перарэгістрацыі?**

— У Дзяржкамдруку знаходзяцца ўсе дакументы, неабходныя для рэгістрацыі. У нас ёсць дакумент — указ Прэзідэнта, ім мы і кіруемся. Акцыяніраванне «Народнай газеты» ні ў якім выпадку не азначае, што калектыў газеты адыходзіць ад асвятлення работы парламента, парламенцкага жыцця і ў цэлым праблем заканадаўчай улады. Наадварот, пазбавіўшыся дробязнай групавой апекі дэпутатаў, ён будзе гэта рабіць больш аператыўна, цікава, шырока як для саміх дэпутатаў, так і для шырокага кола чытачоў. У нас адна мэта — працаваць на дзяржаву, працаваць над вырашэннем яе праблем, для лепшага заўтрашняга дня.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

### БАЕВІКІ ПАГРАЖАЮЦЬ ПАКАРАЦЬ СМЕРЦЮ ПАЛОННЫХ РАСІЙСКІХ ВАЙСКОЎЦАЎ

Міністр інфармацыі Чачэнскай рэспублікі Ічкерыя Удугаў заявіў, што калі генерал Ціхаміраў прывядзе свае пагрозы ў выкананне, расійскія вайскоўцы, якія знаходзяцца ў палоне, будуць неадкладна пакараны смерцю. Па словах Удугава, да гэтага прывядуць любыя правакацыйныя дзеянні расійскіх войскаў і аднаўленне баявых дзеянняў у рэспубліцы. У панядзелак камандуючы расійскімі войскамі ў Чачні прад'явіў кіраўніцтву Рэспублікі Ічкерыя ўльтыматум, згодна якому чачэнскі бок да 18 гадзін учарашняга дня павінен быў вызваліць усіх захопленых вайскоўцаў і мірных жыхароў. У адваротным выпадку Ціхаміраў пагражае прыняць адэкватныя меры, у тым ліку пачаць з усёй рашучасцю знішчэнне чачэнскіх апалчэнцаў. У той жа час генерал Лебедзь заявіў італьянскім журналістам, што ён гатоў абмеркаваць магчымае аддзяленне Чачні ад Расіі.

### БЕСПАРАДКІ Ў ПАЎНОЧНАЙ ІРЛАНДЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Тры дні працягваецца канфрантацыя паміж паліцыяй і ўдзельнікамі пратэстанцкага маршу ў горадзе Потэрдам (Паўночная Ірландыя). За апошнія гады гэта самыя моцныя хваляванні ў краіне, якія перакінуліся і на іншыя ўчасткі. У Белфасце ўначы людзі запаланілі вуліцы, падпальвалі машыны, атакавалі паліцэйскія ўчасткі. Некалькі сем'яў рымскіх каталікоў былі гвалтоўна выгнаны з дамоў, падпалена каталіцкая школа. Сотні людзей спяшаліся ў аэрапорт, аднак галоўныя дарогі да яго былі на некаторы час перакрыты барыкадамі. Усё пачалося з таго, што паліцыя забараніла правядзенне пратэстанцкага маршу праз раёны, дзе пражываюць рымскія каталікі. У сувязі з непарадкамі галоўныя палітычныя партыі пратэстантаў заявілі аб ігнараванні перамоў па фарміраванню новага ўрада.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Паліцыя штата Нью-Джэрсі доўга не магла ачуцца ад шоку: злачынцам аказаўся чатырнаццацігадовы хлопчык. Юны камп'ютэрны геній, выкарыстоўваючы праграму «Крэдытмайстар», перавёў на свой рахунак пяць тысяч долараў. Невядома, колькі ўладальнікаў крэдытных картак раптам сталі б банкрутамі, каб фартуна не адвярнулася ад хлопчыка: спрабуючы знайсці новую камбінацыю лічбаў, ён выйшаў на нумар крэдытнай карткі, якая была ў вышуку. Юнага злачынцу затрымалі пры куплі новага камп'ютэра на «зароблены грошы». Пакаранне было суровае — паліцыя канфіскавала камп'ютэр.

**Рэйтэр.**

Мала хто святкуе дзень нараджэння сваёй кіскі. Але вось кошцы Сэндзі з вашынгтонскага прыгарада пашанцавала. Яе гаспадары з усёй пышнасцю адсвяткавалі дзень нараджэння сваёй любіміцы. Праўда, Сэндзі дажыла да ўзросту, які для кошкі дзіўны: ёй 21 год. Кошка-доўгажыхарка пакутуе на артрыт, але ўвогуле адчувае сябе нядрэнна.

**ЭКСТРА-ПРЭС.**

Ці памятаеце вы, да якога часу працягвалі расці? Ма Гунвэну з кітайскай правінцыі Хунань не трэба ўспамінаць, бо яму амаль 30 гадоў, а ён усё расце і дарос ужо да 232 см. Апетыт у яго добры: акрамя трох кілаграмаў рысу ў дзень, ён ахвотна есць мяса, гародніну, садавіну, рыбу. Адчувае сябе нармальна, жыве і працуе, як усе. І медыкі не знайшлі ў яго ніякіх адхіленняў. У іх толькі адно пытанне: цікава, да якога часу Ма будзе яшчэ расці?

**ІТАР-ТАСС.**

## СЁННЯ

### СОНЦА

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск — | 4.49 | 21.38 | 16.49 |
| Віцебск — | 5.32 | 21.36 | 17.04 |
| Магілёў — | 4.39 | 21.28 | 16.49 |
| Гомель — | 4.46 | 21.16 | 16.30 |
| Гродна — | 5.07 | 21.57 | 16.44 |
| Брэст — | 5.16 | 21.44 | 16.28 |

### ІМЯНІНЫ

**Пр. Іаанны, Георгія, Пятра, Паўла.**
**К. Антонія, Олафа.**

### НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачна з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы, дзе-нідзе з навальніцамі. Тэмпература паветра ў Гродне 16—18, Брэсце — 17—19, Віцебску — 24—26, Магілёве — 26—28, Мінску — 22—24; найцяплей у Гомелі — 27—29 градусаў вышэй нуля. У наступныя двое сутак — амаль без змен: воблачнасць, праясненні, месцамі дажджы з грымотамі. Тэмпература паветра ўначы 9—14, удзень 18—23 градусы цяпла.

### МЕДЫЦЫНСКІ ПРАГНОЗ НАДВОР'Я НА 10 ЛІПЕНЯ

Надвор'е будзе вызначацца франтальным раздзелам. Чакаецца нязначны рост утрымання кіслароду ў паветры. У такіх умовах самаадчуванне метэазалежных хворых крыху палепшыцца.

У мэтах прафілактыкі рэкамендуецца павялічыць фізічную актыўнасць, больш гуляць на свежым паветры.

**Антаніна КАРОЗА, навуковы супрацоўнік БелНДІ кардыялогіі.**

*НА СВАЕ ВОЧЫ*

# ЛІТВА ДАЛЁКАЯ І БЛІЗКАЯ

## СТЭРЭАТЫПЫ І МІФЫ

**У маі бягучага года адбыўся першы тур перамоў паміж Дэпартаментам турызму Літоўскай Рэспублікі і Міністэрствам спорту і турызму Рэспублікі Беларусь. Вынікам іх павінен стаць дагавор аб супрацоўніцтве паміж дзвюма суседнімі краінамі ў галіне турызму. А пакуль кожны бок рыхтуе свае прапановы і варыянты дамовы, група беларускіх журналістаў па запрашэнню дэпартамента і пры садзейнічанні пасольства Літоўскай Рэспублікі ў Беларусі наведала Літву.**

Як заўважыў падчас паездкі адзін з маіх калегаў, калісьці нават мінскія студэнты ездзілі ў Вільнюс толькі для таго, каб паблукаць па вузкіх брусчатых вулках Старога горада, палюбавацца прыгажосцю і своеасаблівасцю мясцовай архітэктуры, папіць заўсёды добрага літоўскага піва, а заадно і глытнуць свабоды ў прамым і пераносным сэнсе гэтага слова, адчуўшы хоць ненадоўга сябе ў Еўропе. Так, ужо тады, нават будучы саюзнай рэспублікай, Літва захавала сваю самабытнасць і непахіснае імкненне да еўрапейскай цывілізацыі. Сёння, як і раней, краіна ў параўнанні з Беларуссю далёка інтэгравалася ў Еўропу. І ў адрозненне ад старых часоў, трапіць зараз туды не так ужо і проста. Праблема не толькі ў сапраўднай дзяржаўнай мяжы, якая пралягла паміж нашымі рэспублікамі, у мытных пастах, пагранпераходах і ў візавым рэжыме праезду, але і ў палітычных і сацыяльных, часта штучна створаемых бар'ерах. Возьмем хаця б інфармацыйны вакуум аб гэтай краіне ў беларускіх сродках масавай інфармацыі (што датычыцца літоўскіх СМІ, то гаварыць пра іх міжнародную палітыку не бяруся, паколькі інфармацыі маю недастаткова). Нашы ж газеты, тэлебачанне і радыё больш надаюць увагі навінам з Расіі, Польшчы ды Украіны. Літва ж і Латвія, якія таксама з'яўляюцца самымі блізкімі суседзямі нашай рэспублікі, застаюцца чамусьці па-за ўвагай. Таму адна з мэтаў гэтай паездкі і гэтага матэрыялу заключаецца ў тым, каб крыху змяніць становішча хаця б у маштабе «Звязды» і «прасекчы акно» ў Літву.

Стаўшы незалежнай дзяржавай і ў адрозненне ад Беларусі выбраўшы канкрэтны накірунак на Захад у сваім развіцці, Літва, як і іншыя краіны Прыбалтыкі, паступова перайшла з шэрага блізкіх сяброўак у рад маўклівых суседзяў. І тут, мусіць, праблема нават у нейкай зайздрасці ад таго, што літоўцы не гублялі часу дарма, не тапталіся на месцы і таму жывуць зараз даволі заможна. Такім чынам, з цягам часу гэтая краіна ў свядомасці нашых суграмадзян увайшла ў шэраг краін так званага далёкага замежжа, хаця геаграфічнае становішча яе, вядома, засталося ранейшым. Мяжа паміж нашымі дзяржавамі ператварылася ў адрэзак геапалітычнага падзелу паміж Усходам і Захадам.

Сёння беларусы ў Літву ездзяць пераважна па дзвюх прычынах: да родных і за патрыманымі аўтамабілямі. На жаль, катэгорыя звычайных турыстаў ці адпачываючых з'яўляецца малалікай. Для гэтага ёсць некалькі як аб'ектыўных, так і суб'ектыўных прычын. Як я ўжо сказаў, пачынаецца ўсё з візы. Для яе атрымання патрэбен не толькі замежны пашпарт, але і запрашэнне з Літвы, а таму для чалавека, які вырашыў проста падарожнічаць па краіне, дзе ў яго няма родных ці знаёмых, гэта ўжо становіцца першай праблемай, для вырашэння якой патрэбен працяглы час. Але калі і тут яго настойлівасць перамагла, то другой праблемай стане чарга ў консульстве і параўнальна высокі кошт самой візы. Праўда, неабходна заўважыць, што пры наяўнасці санаторнай пуцёўкі не тое што віза, але нават і замежны пашпарт неабавязковы. Як ні парадаксальна, такім чынам Літва атрымліваецца больш адкрытай дзяржавай для грамадзян з далёкага замежжа. Гэта абумоўлена тым, што краіна мае бязвізавы рэжым уезду з дваццаццю дзяржавамі, сярод якіх Японія, Італія, ЗША, Швейцарыя, Аўстралія, Данія, Ісландыя, Велікабрытанія, Ліхтэнштэйн, не кажучы ўжо пра Польшчу ці Венгрыю.

Сярод суб'ектыўных прычын перш за ўсё патрэбна адзначыць стэрэатып, які дастаўся ў спадчыну пасля так званага развалу Савецкага Саюза і які ўстойліва засеў ва ўяўленні пэўнай часткі нашых суайчыннікаў. Існуе распаўсюджаная думка, што ва ўсіх былых саюзных рэспубліках да гэтага часу пануе поўны развал. Гэтае ж адносіцца і да Літвы. Пры адсутнасці неабходнай інфармацыі сярэдні беларус лічыць, што «яны там загінаюцца» гэтак жа, як і мы. Ну і выснова адсюль, вядома, адна: нашто туды ехаць адпачываць і губляць свае кроўныя?! І ў гэтым выпадку перавага аддаецца Чэхіі, Славакіі, Венгрыі ці Балгарыі — краінам, цэны на адпачынак у якіх больш-менш прымальныя для сярэдняга беларуса.

На самой жа справе ўсё зусім не так. Вядома, Літва таксама са складанасцямі пераносіла пераходны перыяд ад сацыялізму да рынкавай эканомікі. Але там ужо самы складаны этап пройдзены, ужо нельга не заўважыць станоўчых вынікаў. Краіна набывае рысы цывілізаванай еўрапейскай дзяржавы з усімі яе атрыбутамі. Пры гэтым літоўцы змаглі захаваць непаўторнасць свайго краю, што робіць іх радзіму прывабным аб'етам для турыстаў з усяго свету. А вось калі мы возьмем любую турыстычную газету і параўнаем кошты адпачынку ў Літве з той жа Чэхіяй, то перавага атрымліваецца амаль у два разы на карысць першай. І гэта пры тым, што сервіс аднолькавы — на ўзроўні сусветных стандартаў.

Акрамя таго, відаць, самая істотная перавага для нашых землякоў — адсутнасць моўнага бар'еру. Дарэчы, моўная праблема, якая нібыта існуе ў Літве, — гэта яшчэ адзін прыдуманы міф, невядома каму выгадны. Узнік гэты міф пасля радыкальных змен у Латвіі і Эстоніі, дзе праблемы грамадзянства і няведання дзяржаўнай мовы сталі падставай для многіх канфліктаў і наогул падзялілі мясцовых жыхароў на дзве часткі. У Літве ж гэты працэс прайшоў павольней і без асаблівага ціску. Грамадзянства атрымалі ўсе, хто жыў на тэрыторыі краіны на час аб'яўлення суверэнітэту. У гэтым краіна падобна на Беларусь.

Веданне дзяржаўнай мовы абавязковае для дзяржслужачых, хаця кожны літовец лічыць не тое што гонарам, а проста нармальнай з'явай размаўляць па-літоўску. Гэтае ж імкненне назіраецца і ў катэгорыі людзей, якіх прынята называць рускамоўнай часткай насельніцтва. Зараз руская мова выкладаецца ў школах з чацвёртага класа ў якасці другой замежнай. Разам з гэтым вас ніхто не абразіць, калі вы будзеце гаварыць па-руску. На гэтай глебе літоўцы не робяць праблем, бо разумеюць, што і ад гэтага моцна залежыць поспех іх бізнесу. Больш таго, грамадзяне, якія заняты ў сферы гандлю ці абслугоўвання, паступова пачынаюць авалодваць і польскай, і нямецкай, і англійскай мовамі. Кожны зацікаўлены ў тым, каб вы засталіся задаволены яго таварам ці паслугамі, кожны зацікаўлены ў сваім прыбытку. І ў гэтым мне неаднаразова давялося пераканацца.

**(Працяг будзе)**

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ, фота аўтара.**

***На здымках:*** *касцёл св. Тэрэзы, капліца і вароты Мядзінінкай на вуліцы Аушрос варту ў Вільнюсе пасля рэстаўрацыі выглядаюць яшчэ прывабней; помнік Францыску Скарыне ў двары дома, дзе ён надрукаваў першую кнігу; на вуліцах Старога горада «гаспадараць» людзі, а не аўтамабілі.*

# Сядзіба

**Выпуск № 343** **Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

## ПРАГНОЗ НЕСУЦЯШАЛЬНЫ

**Рэспубліканская станцыя аховы раслін надрукавала свае прагнозы на развіццё хвароб і шкоднікаў у першай палове ліпеня. Нічога суцяшальнага ў ім няма: хваробы і шкоднікі ідуць у наступ, як кажуць, шчыльнымі радамі.**

Каларадскі жук гаспадарыць на бульбяных палетках. Праўда, яго колькасць некалькі меншая за мінулагоднюю. Прычына таму — прахладнае і «мокрае» надвор'е. Усё ж яго колькасць трывожная. На кусце можна налічыць да 20—47 «паласацікаў»! А знізу ідуць новенькія. Зрэшты, яны спаўна выкарыстаюць пацяпленне, якое наступіла. Хочам ці не, а сродкаў і часу на «нарыхтоўку» жука шкадаваць не трэба. Збірайце рукамі і апрацоўвайце хімікатамі. Апошніх даволі многа. Гэта «інта-вір», «каратэ», «дэцыс», іншыя. Нормы на сотку — на этыкетках. Не парушайце бяспекі пры рабоце з ядамі!

На бульбе і памідорах паселіцца і фітафтора — вораг нумар адзін. Яна за нейкі тыдзень-два можа знішчыць зялёнае лісце, дастане і плады. Яшчэ ёсць прыкметы развіцця бурай пятністасці. Так што разводзіць фунгіцыды (іх многа ў продажы) і апырскваць-бараніць падапечных. З даўніх часоў дапамагала бардоская сумесь. Можа выручыць і цяпер. Састаў на вядро вады такі: 100 г меднага купарвасу і 100 г вапны. Гэты прэпарат падыдзе для стрымлівання яшчэ адной хваробы — мучністай расы.

На дрэвах актывізаваліся пладажэрка, розныя пілільшчыкі, моль, вылупіліся вусені. Зноў можна выкарыстоўваць «каратэ», «дэцыс», карбафос.

Капуста быццам цэлая. Толькі асобныя кропкі-дзірачкі. То палююць блышкі і слімакі. На іх управа — пылавідны тытунь і попел. Апудрыце — усё шкоднае адваліцца. Гэтыя два лекі можна змешваць у прапорцыі 1:1. Можна выкарыстаць кожны з іх асобна. Але капуста такі смачны кавалачак, што паспытаць яго жадаюць многія вусені, якія бяруць паходжанне з кладак молі, мухі, розных матылькоў. Пакуль яны не вельмі ляталі, і мы жылі спакойна. Цяпло ўсё зменіць да горшага. Па прагнозу, гэтых матылькоў будзе шмат. Адзінкі і «эскадрыллі» пасадзяць шмат жаўтаватых кропак, з якіх выйдуць статкі вусеняў. Заўважылі іх — зноў бярыцеся за універсальнае лека «каратэ». Яно дзейнічае, бадай, па ўсіх шкодніках. Але спачатку, вядома, збірайце вусеняў, здымайце нажом кладкі на лісці.

Вельмі распаўсюдзілася тля на гароху. Каб не есці зярняткі з чарвячкамі, своечасова апрацуйце пасевы. Зноў падыходзяць «каратэ», карбафос ці «інта-вір». Апошні прэпарат знішчае амаль усіх шкоднікаў агароду і саду.

## ЦІ ТРЭБА «КАРМІЦЬ» ЯБЛЫНЮ ПА ЛІСЦІ?

***Такое пытанне задаў дачнік з Мінска Васіль Кананаў.***

***— А вы чытаеце нашы выпускі «Сядзібы»? — спыталі ў яго.***

***— А як жа!***

***— Вось там шмат звестак, як лепш за ўсё даставіць сілкаванне непасрэдна да каранёў. Канаўкі капаць...***

***— Не, пра гэта я чытаў. А вось як зрабіць падобнае па лісці ды па галінках? Ураджай жа абяцае быць добрым...***

Магчыма, гэта пытанне хвалюе і іншых гаспадароў. Заўважым, што аб пазакаранёвай «ежы» мы таксама гутарылі. Але больш за ўсё для агародных культур. Цяпер ліквідуем сваю запазычанасць.

Яблыні і грушы, якія стогнуць і радуюцца ад ураджаю, жадаюць усіх элементаў жыццядзейнасці і ў даволі высокай колькасці. Для гэтай справы згадзяцца: настой каравяка (1:15), конскага гною (1:20), курынага памёту (1:25). Усе падкормкі настойваць, памешваючы, на працягу тыдня. Абавязкова працадзіць, аддзяляючы брудныя буйныя кампаненты. Такі раствор можна наносіць на лісце, дадаўшы на вядро лыжку-паўтары мачавіны і літр настоенага і працэджанага попелу.

Асобна развесці ў цёплай вадзе жалезны і медны купарвас (па 10 грамаў), борную кіслату ці буру — 5 грамаў. Уліць у агульны раствор у 10 літраў. Гэта будзе найлепшая «пуга», якая прымусіць само дрэва і вядома ж плады расці хутка і назапашваць вялікую колькасць карысных рэчываў.

Можна выкарыстаць іншыя саставы. Напрыклад, такі. У ста літрах вады развесці і настояць вядро попелу. На вядро (10 літраў) дадаць: 40 г мачавіны ці 50 г салетры, па 5 г элементаў, якія ўтрымліваюць медзь, буру (борную кіслату), сернакіслыя марганец і цынк. Выдатны вынік дасць і дадатковы суперфасфат (яго ў попеле не вельмі многа). Трэба дабавіць да 100 г гэтага элементу на вядро вады.

Безумоўна, апрацоўваць не ў спякоту, а пад вечар ці раніцою.

Неўзабаве знімем ураджай парэчак, агрэсту і вішань. Дрэвам і кустам, якія былі з добрым ураджаем, даць падкормку па лісцях тымі ж саставамі, толькі зменшанымі на трэць. Вішню дадаткова апрацаваць бардоскай сумессю супраць какамікозу.

## СЕЛІМ... ПУПЫШКУ



**Дрэвы закончылі ці заканчваюць рост гэтага года. Даходзяць да кандыцыі галоўная і бакавыя пупышкі. Яны здольныя даць у будучым годзе пабегі. Гэта выкарыстоўваюць для летніх прышчэпак — самых масавых у садаводчых гаспадарках. Маленькая пупышка дае «ход» зусім новаму, заўсёды найлепшаму, сорту.**

Пра летнюю акуліроўку (на малюнку злева направа і зверху ўніз) мы пісалі ў мінулыя гады. Што тут галоўнае? Чыстыя інструменты, чыстыя чаранкі, чыстыя рукі садавода і, вядома ж, стараннe.

З аблюбаванага дрэва зрэзаць чаранок-сёлетагодку. Ён з асветленага месца, даўжынёю не менш 10—15 см. Верх і ніз нам не патрэбны. Паглядзіце ўважліва, там пупышкі меншыя. Яны яшчэ не паспелі выспець. Для акуліроўкі трэба браць дзве-тры пупышкі, але буйныя. Лісцікі зрэзаць, пакінуўшы чарашкі ў 1—1,5 см (бы ручкі).

У 10—15 см ад зямлі старанна выціраем камель дзічкі вільготнай анучкай, якая кіпяцілася. Робім садовым акуліровачным нажом разрэзы, як паказана на малюнку. Адным рухам знімаем пупышку з чарашкамі, карою і з крышачкай драўніны. Гэтую пупышку ставім у гняздо, імкнучыся «схаваць» за кару дзічкі (падвоя). Не ўлазіць — частку адрэзаць. Застаецца старанна абгарнуць ізаляцыйнай ліпкай стужкай (ліпучка вонку), пачынаючы ад зямлі ўверх.

Пупышку з чарашком не закрываць. Вось і ўсё. Праз два тыдні дакрануцца да пянька-чарашка. Калі ён адваліцца, ваша прышчэпка ўдалася. Наступнай вясною адрэзаць стволік падвоя на 10—15 см вышэй прышчэпкі. «Кватарант» хутка набярэ рост. Яго трэба падвязваць да пянька, які пакінулі.

## «ЦЫГАРЭТЫ» НА ЛІСЦІ

**Многія дачнікі занепакоены скручваннем лісця на бульбе і памідорах. Яны бы тыя «цыгарэты», толькі не папяровыя скручванні, а прадольныя.**

Адназначна адказаць, чаму так адбываецца, няпроста, бо тут часта дзейнічае цэлы букет недарэчнасцей. Хутчэй за ўсё гэта пачатак розных вірусных хвароб. Пераносяцца яны насякомымі. Паражаецца сасудзістая сістэма. Пажыўным рэчывам цесна, яны не атрымліваюць натуральнага паступальнага руху. Лісце закручваецца, адчуваючы дыскамфорт. Таму і ходзяць па баразнах людзі, вышукваючы гэтых слабенькіх карлікаў. Выкапалі — усё спаліць. Зямлю абдаць кіпнем.

Заўважана, што круціць ліст першая атака фітафторы (часцей ніжнія ярусы, якія сутыкаюцца з зямлёю). Іх зрэзаць і спаліць. Яшчэ адна прычына — недахоп буры і калію.

Паспрабуйце апрацаваць па лісці (можна венічкам) настоямі попелу (літровую шклянку на 10 літраў вады) і борнай кіслатой (2—4 г на тыя ж 10 літраў). Буру разводзіць у вадзе, тэмпература якой ад 40 да 60 градусаў (у халоднай разыходзіцца дрэнна).

Яшчэ адна заўвага па цыбулі. Грыбок вельмі ласы да зялёных частак. Бывае, ён за нейкія дні з зялёных робіць іх бурымі, пасля жоўтымі. Усё вяне, гніе.

З чакаемага вялікага ўраджаю — нешта падобнае на боб. Дабіраецца да так званага сялянскага (шматзачаткавага) падвіду і сяўка. Таму калі будзеце апрацоўваць супраць фітафторы, завярніце і да радкоў цыбулі. Тыя радкі, з якіх знімаеце лісточкі для салаты, не апрацоўвайце.

## КЛЕІМ ПЛАСТМАСЫ

**У апошнім выпуску газеты «Для вас» (№ 21) дадзены рэкамендацыі па кветкаводству і розных гаспадарчых «хітрыках» умельцаў. Ёсць заметка, як склейваць плёнку. Наш чытач з Мінскага раёна Яўген Фёдараў пытае, а як наогул склейваць вырабы з пластмасы, пластмасу з іншымі цвёрдымі часткамі. Дрэвам, напрыклад, ці жалезам.**

Як і ўсе іншыя матэрыялы, пластмаса склейваецца амаль з усімі прадметамі. Выключэнне вельмі нязначнае. Многія, бадай, памяталі, як вядро «з хіміі», пастаяўшы на гарачым прадмеце і перанесенае на халоднае, раптам не адрывалася. Тэмпература (і даволі высокая!) — галоўны склейваючы фактар.

Ёсць спецыяльныя вадкія клеевыя матэрыялы. Іх наносяць пры пакаёвай тэмпературы. Плошчы, вядома, ачышчаны ад бруду, рознага смецця, зачышчаны спецыяльнай «наждачкай». На паветры клей набывае цвёрдыя ўласцівасці.

Пластмасы аднаго віду склейваюць іх жа растваральнікамі. Цэлулоід паддаецца ацэтону, полістырол — бензолу, арганічнае шкло клеіць хлараформ.

Каб склеіць аднародныя часткі, дастаткова нанесці на цэлулоід ацэтон, крыху патрымаць і затым дзве часткі шчыльна палажыць адна на другую. Зверху пакласці цяжар.

У продажы ёсць цэлы букет розных сінтэтычных клеевых матэрыялаў. Нават такія, якія дзейнічаюць вельмі хутка. Выбірайце.

Выпуск газеты «Для вас» (№ 21) будзе ў продажы ў кіёсках да канца гэтага месяца.

Брашурку, як і астатнія (№№ 15—20) можна заказаць у рэдакцыі. Як гэта зрабіць і пра цэны можна даведацца з мінулага выпуску «Сядзібы». Толькі памятайце, што на грашовым пераводзе трэба пісаць дакладны адрас з індэксам, прозвішча і якія брашуры заказваеце. Запаўняецца і верхняя і ніжняя часткі пераводу. Толькі калі атрымаем пераклад, будуць высланы заказным адпраўленнем брашуры. Квітанцыі аб уплаце грошай высылаць не трэба.

*СІТУАЦЫЯ*

## ЦІ АТРЫМАЕМ З АДХОДАЎ ДАХОДЫ?

**Калі ўтрыманне шкодных рэчываў у адпрацаваных газах вашага легкавіка перавышае норму, міліцыя можа аштрафаваць вас на 10—20 тысяч рублёў. Куды больш суровае пакаранне прадугледжана для тых, у каго хопіць сумлення скінуць вытворчыя адходы ў недазволеным месцы. У гэтым выпадку і без таго немалыя плацяжы (за размяшчэнне на палігоне тоны таксічных адходаў першага класа небяспекі прадпрыемства сёння павінна заплаціць у пазабюджэтны фонд аховы прыроды 900 тысяч рублёў, другога класа — 270 тысяч) павялічваюцца ў дзесяць разоў. Аднак, па вялікаму рахунку, фінансавыя санкцыі мала што здольны проціпаставіць той «міне запаволенага дзеяння», якая ўжо сёння сур'ёзна пагражае нам самім, рыхтуючы яшчэ большую небяспеку для нашых нашчадкаў. Праблема значна глыбей.**

Штогод зямля Гродзеншчыны атрымлівае ад прамысловасці «падарунак» у выглядзе прыкладна паўмільёна тон адходаў вытворчасці. Прычым толькі пятая частка іх выкарыстоўваецца як другасная сыравіна. Усё астатняе накіроўваецца на звалкі і палігоны. Акрамя таго, на прадпрыемствах Прынёманскага краю змешчана каля 1,5 мільёна тон таксічных адходаў, якія забаронена вывозіць на звалкі. Некаторыя з іх і «хацелі» б стаць другаснай сыравінай, ды ўмовы не дазваляюць. Трэцяя частка непатрэбных сёння адходаў складзіравана на акцыянерным прадпрыемстве «Ваўкавыскцэменташыфер». Прыкладна 200 тысяч тон адходаў размешчана на Скідальскім цукровым камбінаце і яшчэ больш — на шклозаводзе «Нёман» у Бярозаўцы.

Якія ж захады робяцца на Гродзеншчыне ў напрамку цывілізаванага вырашэння гэтых праблем? Па словах старшыні абласнога камітэта прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя П. Путро, сёе-тое робіцца. У прыватнасці, у Іўеўскім, Навагрудскім, Слонімскім, Смаргонскім і Шчучынскім раёнах ідзе будаўніцтва палігонаў для цвёрдых бытавых адходаў, якое фінансуецца з пазабюджэтных фондаў аховы прыроды вобласці, гарадоў і раёнаў. Але гэта, бадай, адзіная рэальная справа, якая, хочацца верыць, у недалёкай перспектыве дасць плён. Усе астатнія мерапрыемствы пакуль на ўзроўні планаў і пажаданняў. Між тым цікавых ідэй нямала. Адна з іх датычыць будаўніцтва комплекснага прадпрыемства па утылізацыі, абясшкоджанню і захоўванню складаных адходаў. Пачатак быў даволі абнадзейлівы. Заключылі дагавор з санкт-пецярбургскім інстытутам «Гіпрахім» на тэхніка-эканамічнае абгрунтаванне праекта, узяліся за падрыхтоўку тэхналагічных пашпартоў і аналіз прамысловых адходаў. Але на гэтым і спыніліся, бо не хапае фінансаў. Па той жа прычыне толькі на паперы застаўся і пункт з зацверджанай Кабінетам Міністраў яшчэ ў 1994 годзе Праграмы экалагічна і эканамічна абгрунтаванага выкарыстання адходаў, у якой ВА «Лакафарба» вызначана як базавае прадпрыемства для перапрацоўкі адходаў на Гродзеншчыне.

Дарэчы, той жа Санкт-Пецярбургскі навукова-даследчы інстытут пакуль беспаспяхова прапануе нам і яшчэ дзве ўстаноўкі. Першая — лакальная, па перапрацоўцы адходаў гальванічнай вытворчасці на плошчы ўсяго 100 квадратных метраў. Другая можа быць карыснай «Ваўкавыскцэменташыферу». Сутнасць ідэі ў тым, што арганічныя адходы (нафташламы, старызна, драўніна) спальваюцца ў спецыяльнай установцы, пасля чаго атрыманыя газы можна утылізаваць у працэсе сушкі шыхтавых матэрыялаў. Але зноў жа ўсё ўпіраецца ў адсутнасць грошай. Зрэшты, не толькі ў гэта.

Паводле слоў П. Путро, нават у сённяшніх, далёка не лепшых для эканомікі ўмовах некаторыя праекты можна паспяхова рэалізаваць — пры долевым удзеле зацікаўленых прадпрыемстваў. Пачынаць жа трэба з распрацоўкі комплекснай праграмы экалагічна і эканамічна абгрунтаванага абыходжання з вытворчымі адходамі на Гродзеншчыне. На сённяшні дзень, як ні дзіўна, такой праграмы не існуе. І хто ж яе распрацуе, улічваючы тое, што абласны камітэт прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя не валодае навукова-доследным патэнцыялам?

Выйсце бачыцца ў стварэнні часовага працоўнага калектыву з удзелам уладных структур, эколагаў, размешчанага ў Гродне аддзела энергарэсурсазберажэння Акадэміі навук Беларусі, санітарна-эпідэміялагічнай службы прамысловых прадпрыемстваў. Акрамя распрацоўкі навукова абгрунтаванай праграмы гэты калектыў мог бы заняцца пытаннямі рэалізацыі і утылізацыі асобных адходаў. Скажам, на гродзенскай ЦЭЦ-2 ужо скапілася 54.912 тон шламу з утрыманнем ванадыю. 555 тон адходаў каталізатараў, таксама з ванадыем, маюць у аб'яднанні «Азот». Ці здолеем мы калі-небудзь атрымаць з гэтых і іншых адходаў не толькі «галаўны боль», але і пэўную выгаду?

**Барыс ПРАКОПЧЫК.**

*36,6*

## Не бі па печані

**Печань у нашым арганізме адыгрывае зусім асаблівую ролю. Якую б ну вельмі смачную «атруту» мы ні з'елі, колькі б спіртнога ні выпілі, яна спакойна — а што рабіць? — прыме чарговы ўдар лёсу і выканае ролю магутнага ачышчальнага збудавання.**

Памятайце: печань слабая! Сур'ёзнае яе пашкоджанне або захворванне хутка прыводзіць да самага што ні ёсць трагічнага зыходу. Аперацыі на печані — справа надзвычай складаная. А ўжо трансплантацыі гэтага органа ажыццяўляюцца не так часта, чым перасадка сэрца. Так што раз і назаўсёды засвойце: печань у вас адна і на ўсё жыццё! Таму вам будзе карысна даведацца, што...

**ПЕЧАНЬ ЛЮБІЦЬ**

● Нятлустую рыбу — траску, фарэль, судака, карпа, таўсталобіка, хека, далікатнае цялячае мяса, індычку. Гэта лёгкія, хутка засваяльныя дыетычныя прадукты.

● Вырашчаныя без лішку ўгнаенняў гародніну, садавіну, зяленіва, асабліва капусту (белакачанную, цвятную), моркву, буракі, памідоры, агуркі, кабачкі, гарбузы, пятрушку, кроп. Іх вітаміны і мікраэлементы падтрымліваюць нармальную жыццядзейнасць гэтага органа. «Любімчыкі» печані — салодкая садавіна і сухафрукты: бананы, інжыр, курага, фінікі, разынкі, чарнаслівы, а таксама свежыя дэсерты з садавіны.

● Мёд з усёй слодычы яна выбірае з настойлівасцю Віні Пуха.

● Усемагчымыя гароднінныя супы, працёртыя супчыкі, разнастайныя гароднінныя рагу, салаты і вінегрэты, запраўленыя любым алеем: сланечнікавым, гарчычным, соевым і асабліва аліўкавым, — яшчэ адна далікатная прыхільнасць печані. Замест кавалачка хлеба з маслам для яе, без сумнення, лепш аддаць перавагу не вельмі папулярнаму ў нас, затое любімаму ва ўсім свеце бутэрброду з маргарынам. Ён жа, як і алей, пазбаўлены халестэрыну — першага ворага печані.

● Сыр, кефір, тварог, іншыя малочныя прадукты, пераважна з нізкім утрыманнем тлушчу.

● Звараныя ўсмятку яйцы, але не кожны дзень, а час ад часу.

● Натуральныя сокі, а зусім не іх сінтэтычныя замяняльнікі. Без кансервантаў, а яшчэ лепш уласнага прыгатавання.

● Старанна ачышчаную ваду, якая прадаецца ў магазінах у бутэльках, або прапушчаную праз бытавы фільтр.

● З мінеральных яна выбірае такія ўсім вядомыя, як Есентукі, Славянаўская, Нарзан. Прычым любіць не разлітыя ў бутэлькі, а проста з крыніц.

● Печань будзе вельмі ўдзячная, калі вы спецыяльнымі прышчэпкамі падстрахуеце яе ад гепатыту А і В і літаральна выратуеце ад гепатыту В з дапамогай прэзерватыва.

● Комплексы ёгаў, якія садзейнічаюць ачышчэнню арганізма ад канчатковых прадуктаў абмену рэчываў (шлакаў). Толькі майце на ўвазе, што да трэніровак па сістэме ёгаў даволі многа проціпаказанняў. Карыстайцеся не выпадковымі ксеракопіямі, а кнігамі, выпушчанымі салíднымі выдавецтвамі, такімі, напрыклад, як «Медыцына», і ўважліва вывучыце рэкамендацыі спецыялістаў. Строга імі кіруйцеся, не дапускаючы ўласных фантазій.

● Асаблівы раслінна-травяны настой, які можна піць і здаровым, і хворым замест чаю для прафілактыкі хвароб печані. Змяшайце ў роўных прапорцыях кветкі сардэчніку, мяту перачную, кветкі наготак, корань рэвеню, корань салодкі, чыстацел, плады шыпшыны, 4 сталовыя лыжкі сумесі заліце літрам кіпеню і настойвайце 6—8 гадзін. Піце за паўгадзіны да яды па шклянцы маленькімі глыткамі на працягу месяца.

**ПЕЧАНЬ НЕ ЛЮБІЦЬ**

● Масла, сала, тлустае мяса — асабліва свініну і бараніну, мяса качкі, гусі. Чым больш тлушчу прыходзіцца пераварваць страўніку, тым большая нагрузка кладзецца на печань. Па гэтай жа прычыне ёй не падабаюцца здобнае цеста, тлустыя піражныя, торты, пячэнне, шакалад, какава. У «чорным» спіску і моцныя мясныя, курыныя, грыбныя булёны.

● Гародніну з рэзкім смакам — рэдзьку, радыску, часнок, з зяленіва — чарамшу, кінзу, а таксама кіслыя гародніну і фрукты — журавіны, ківі, шчаўе. Да кіслага яна адносіцца таксама, як да яду.

● Моцныя спіртныя напіткі: гарэлку, каньяк, віскі, брэндзі, асабліва самагонку: на нейтралізацыю іх шкоднага разбуральнага ўздзеяння яна траціць вельмі многа сіл. Але з задавальненнем прапускае праз сябе крыху піва цёмных гатункаў з невысокім утрыманнем алкаголю і высокім — вітамінаў групы В. З алкагольных напіткаў найбольш прымальнае і менш шкоднае сухое чырвонае віно ў разумных дозах.

● Марынаваную гародніну, саленні, вэнджанасці ў няўмеранай колькасці, а таксама гарчыцу, воцат, хрэн, востры кетчуп.

● Моцную каву без малака.

● Дрэнна вымытыя гародніну і фрукты: гэта спосаб падхапіць сур'ёзныя хваробы печані — гепатыты А, Е, напрыклад.

● Аб'яданне (асабліва на ноч) для печані ўсё роўна што пастаянны аўрал. Яна ледзь спраўляецца з цяжкай работай, якую ёй задаеце вы і ваш апетыт.

● Выпадковых кантактаў з чужой крывёю — вялікая рызыка заразіцца рознымі формамі гепатыту.

● Не будзьце легкадумнымі: не глытайце прыгаршчамі таблеткі без рэкамендацыі і кантролю ўрача, ледзь адчуўшы лёгкую немач. Многія лекавыя прэпараты разбураюць печань.

● Вам назначана ін'екцыя? Сачыце, каб яе зрабілі толькі аднаразовым шпрыцам з упакоўкі, адкрытай пры вас. Не карыстайцеся чужымі манікюрнымі прыналежнасцямі, лязом. Не насіце чужыя завушніцы. Праколвайце вушы толькі ў касметычных салонах. Там жа рабіце і тутуіроўкі, калі вам падабаецца гэта дзікая мода.

З пашанай і паважліва адносьцеся да органа-дворніка, які ўзяў на сябе самую чорную работу. І печань вас таксама будзе паважаць!

*«Здоровье».*

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 10 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**7.30** Ранішні кактэйль. **7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** ШАНЦ. Перадача па пісьмах гледачоў. **8.45** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». 9-я серыя. **9.40** «Верашок». Мультфільм. **10.00** «На графскіх руінах». Маст. фільм. **11.05** «Зорная ростань». **11.15** Відзьма-нявідзьма. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял. **15.40** «Ну, пачакай!» Выпускі 5—8-ы. **16.20** «Лінія лёсу». Дак. фільм. **17.15** «Спявае Герард Васільеў». Фільм-канцэрт. **17.30** Крэда. Абмеркаванне ўказа аб перарэгістрацыі прадпрыемстваў. **17.50** Музычны антракт. **18.00** Майстэрня. Мастак Мікола Цудзік. **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны (з сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». 10-я серыя. **20.00** «Хто гэта?» Тэлегульня. **20.05** Супергол. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** «Каралева Марго». 11-я серыя. **23.05** Каралеўскае паляванне. **23.45** «Крок». Праграма для моладзі. **0.15** Навіны.

**ГРТ**

**8.00, 11.00, 14.00, 17.00** Навіны. **8.15, 17.20** «Сакрэт трапіканкі». **9.05** Тэма. **9.45** У свеце жывёл. **10.30, 18.35** «Адгадай мелодыю». **11.10** Тэлерадыёкампанія «Мір». **11.50** «Цыган». Серыял. **13.25** Каханне з першага погляду. **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.45** Кактус і К°. **14.55** До-мі-соль. **15.10** Кліч джунгляў. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** Тэт-а-тэт. **16.30** Сем дзён спорту. **18.10** Гадзіна пік. **19.00** «У пошуках страчанага». В. Марэцкая. **19.45** «Добрай ночы, малышы!» **20.00** Час. **20.40** «Французская рэвалюцыя». Серыял. **22.30** «Рэальнае кіно». Ю. Нікулін прадстаўляе фільмы: «На Берлін», «Апошні парад».

**Канал Расія**

**10.00, 16.00, 19.00, 22.40** Весткі. **7.20** Дзелавая Расія. **7.50** Час дзелавых людзей. **8.00** Працей простага. **8.30** Астралогія кахання. **9.00** «Санта-Барбара». **9.55** Кліп-антракт. **10.20** «Злачынства з многімі невядомымі». 4-я серыя. **13.30** «Чароўны школьны аўтобус». Мультсерыял. **14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і іншыя. **14.40** Дзелавая Расія. **15.05** Расія ў асобах. **15.20** Там-там навіны. **15.35** «Не перажывай...» **15.50** «Прыгода коніка Кузі». Мультфільм. **16.20** «Пеўнік і баярын». Мультфільм. **16.30** Залежыць ад цябе. **16.40** Экс эль мьюзік. **16.55** Футбол. «Растсельмаш» (Растоў-на-Доне) — «Спартак» (Масква). **19.35** «Санта-Барбара». **20.30** Сам сабе рэжысёр. **21.00** Надвор'е. **21.05** «Бай-бай, бэбі». Маст. фільм (ЗША—Італія). **22.55** Музыка ўсіх пакаленняў. **23.10** XX стагоддзе. С. Урусеўскі.

**Санкт-Пецярбург**

**11.55, 12.55, 13.55, 14.55, 16.55, 18.55, 21.55** Інфарм ТБ. **12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** «Вялікі чалавек». 7-я серыя. **15.10** «Не магу сказаць «бывай». Маст. фільм. **16.40, 20.40** Тэлеслужба бяспекі. **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял. **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская АТК. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.10** Толькі без панікі. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Вялікі чалавек». 7-я серыя. **22.10** «Зеніт»—«Крылы Саветаў» (Самара).

**НТБ**

**18.00, 21.00, 23.00** Сёння **7.20** Маст. фільм «Вялікі Вальда Пеппер» (ЗША). **9.05** Дак. фільм. **9.25** «Грыф — птушка цярплівая». Маст. фільм. **10.05** Маст. фільм «Спакой і радасць».

**«Расійскія універсітэты»**

**12.00** «Пяць хвілін». **12.05** Педагогіка для ўсіх. **12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы. **13.00** Крыніцы. **13.25, 16.45** Навіны. **13.30** «Марскі воўк». Маст. фільм. **14.35** Эквадор — краіна на экватары. **14.45** «Жыццё і смерць Осіпа Мандэльштама». Частка 1-я. **15.30** «Легенда Аляксандраўна». Праграма В. Смехава. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** «Муззон».

**НТБ**

**17.00** «Незвычайныя прыгоды Скубі-Ду». Мультсерыял. **17.30** Жаночыя гісторыі. «Дэззл». **18.35** Герой дня. **19.00** Маст. фільм «Дуэль» (ЗША). **20.30** Доктар Вугал. **21.35** «Дзікія пальмы». Серыял. 1-я серыя. **22.30** Часінка. **23.20** Такое спартыўнае жыццё. **23.50** Кафэ «Абломаў».



**Віншую выпускнікоў 1956 г. Камінтэрнаўскай СШ п. Глуша Бабруйскага раёна з нагоды саракагоддзя.**

*Аўдулаў В. П.*

*КРЫМІНАЛ*

## «Нелегалы» на Беларусі: у мінулым годзе іх было затрымана 4616 чалавек

**Пры адсутнасці кантралюемай дзяржаўнай граніцы на паўднёвым і ўсходнім напрамках Беларусь аказалася адкрытай на шляху транзіту нелегальных мігрантаў. Яны разглядаюць рэспубліку як перавалачную базу або зыходны пункт на шляху ў іншыя цывілізаваныя краіны.**

Заўважым, што калі ў 1990 г. з нашай краіны выбыла амаль на 8 тысяч чалавек больш, чым прыбыло, то за 1992—1995 гг. сюды прыехала больш за 300 тысяч, а выбыла — 180 тысяч. Акрамя таго, зарэгістравана каля 25 тысяч бежанцаў.

Вопыт работы айчынных органаў унутраных спраў і пагранічных войскаў сведчыць аб неадзінкавых выпадках прыбыцця на тэрыторыю Беларусі груп нелегальных мігрантаў, якія добра арганізаваныя, маюць праваднікоў, запланаваныя маршруты руху. Калі ў 1992 г. было зарэгістравана 489 фактаў парушэння граніцы, то ў 1993 г. — ужо 2751, а ў 1995 г. затрымана 4616 грамадзян амаль з 60 дзяржаў.

Гэта праблема набывае ўсё больш востры характар. Напрыклад, у лютым-сакавіку гэтага года толькі міліцыяй было затрымана каля 300 нелегальных мігрантаў — іх паток рэзка ўзрос.

У раёне вёсак Слонданскага сельсавета Астравецкага раёна Гродзенскай вобласці за 2,5 км ад граніцы спынены 58 іншаземцаў, якія пешшу ішлі з боку Літоўскай Рэспублікі. Суседзі прыняць іх назад адмовіліся.

Глыбокай ноччу на шашы Брэст—Мінск, паблізу в. Залужжа Стаўбцоўскага раёна, начальнік участка дарожнай міліцыі капітан В. Протас выявіў аўтафургон «Сканія» з чэшскімі нумарнымі знакамі. У кузаве знаходзіліся 38 чалавек кітайскай нацыянальнасці без дакументаў і грошай.

У лясным масіве ля в. Ракаў Валожынскага раёна мясцовая міліцыя выявіла аўтобус «Ікарус-255» і машыну «УАЗ-452», дзе размяшчаліся 52 пакістанцы без дакументаў.

Большасць азіятаў і афрыканцаў прыбываюць у Беларусь з праваднікамі, якія захоўваюць пры сабе іх нацыянальныя пашпарты і грошы і, пераважна з'яўляючыся грамадзянамі краін СНД, пражываюць асобна ад сваіх «падначаленых», што істотна ўскладняе выяўленне арганізатараў незаконнага перакідвання за граніцу. Нярэдкія таксама выпадкі махлярства з боку праваднікоў, калі яны ўцякаюць ад іншаземцаў разам з іх дакументамі і валютай.

Аднойчы ўначы пры выездзе ў Мінск на брэсцкай шашы быў затрыманы аўтобус «Ікарус» з 11 грамадзянамі Кітая, якія не мелі пры сабе пашпартоў і грошай. Устаноўлена, што прыязджалі яны да нас у якасці турыстаў, пазнаёміліся з суайчыннікам. Той прапанаваў паслугі гіда, сабраў дакументы і грошы ў суме 8 тысяч долараў ЗША, пасля чаго прапанаваў паглядзець славутасці ў наваколлях горада. Крыху пачакаўшы, хітрун пакінуў іх у лесе і ўцёк на машыне. Некалькі дзён яны блукалі па вёсках, пакуль не дазваніліся ў Мінск.

Аказаўшыся без сродкаў да існавання, многія з падманутых застаюцца ў Беларусі, бадзяюцца, жывуць дзесяткамі ў 1-, 2-пакаёвых кватэрах у антысанітарных умовах, з'яўляюцца патэнцыяльнымі разносчыкамі інфекцыйных захворванняў, а то і ўцягваюцца ў злачыннае асяроддзе.

У кватэры па вул. Дзянісаўскай супрацоўнікамі Ленінскага РАУС Мінска былі затрыманы 14 індыйцаў. Іх прывялі ў прыёмнік-размеркавальнік. У чатырох была выяўлена вятранка, іх перавялі ў інфекцыйную бальніцу, але яны адтуль уцяклі. Пазней прыметы захворвання пачалі праяўляцца і ў астатніх, што ледзь не прывяло да закрыцця прыёмніка-размеркавальніка на карантын.

На чыгуначны вакзал Віцебска дызель-поездам «Смаленск—Віцебск» прыбылі ў суправаджэнні нарада расійскай міліцыі 43 чалавекі — грамадзяне Індыі, Пакістана і Шры-Ланкі. У некаторых выявілі вострую форму дызентэрыі. Толькі намаганнямі работнікаў беларускіх органаў унутраных спраў і санітарна-эпідэміялагічнай станцыі ўдалося лакалізаваць распаўсюджванне інфекцыі і дэпартаваць іншаземцаў назад у Расію.

Да ўсяго іншага, мясцовыя АВІДы неаднаразова звярталіся ў МЗС Рэспублікі Беларусь з прапановамі, каб іншаземцам, якія прыбылі легальна, разам з візай выдавалася б памятка. Там у даходлівай форме павінна выкладацца інфармацыя аб правілах рэгістрацыі, аплаты камунальных паслуг, захаванні элементарных правілаў бяспекі.

**Сяргей ХРЫПАЧ, прэс-цэнтр МУС.**

## ФІЛЬМАТЭКА

- «Прытулак камедыянтаў»
- «Крутыя віражы»
- «Трое ў ложку»
- «Святыя і грэшнікі»
- «Загадкі кахання»

Новую мастацкую кінастужку **«ПРЫТУЛАК КАМЕДЫЯНТАЎ»** прапануюць увазе гледачоў кінамайстры Расіі. Пастаноўку карціны па сцэнарыю Аляксандры Камышовай ажыццявіў рэжысёр Аляксандр Аляксандраў.

...У горадзе на беразе мора жывуць пажылыя Нэлі Яўгенаўна і Клім Яфрэмавіч. За знешняй калючасцю, старэчай шкоднасцю і пастаянным пікіраваннем бачна сапраўдная глыбокая прывязанасць адзін да аднаго. Нездарма расказы Н. Я. аб сваім бурным мінулым (яна працавала касцюмершай у тэатры) выклікаюць вострую рэўнасць у душы К. Я. Але Н. Я. уважлівая і клапатлівая да сімпатычнага суседа, хоць і падколвае яго часцяком, трывожыцца за яго, калі той стукае дзвярыма, залівае крыўду і рэўнасць у прыморскай карчме. І больш іншых будзе засмучаны смерцю Нэлі Яўгенаўны ў фінале фільма менавіта ён, Клім Яфрэмавіч. Хочацца сказаць добрыя словы аб цудоўным акцёрскім дуэце — Лідзіі Смірновай і Канстанціна Воінава.

У кінарэпертуар рэспублікі ўключана таксама амерыканская мастацкая кінастужка **«КРУТЫЯ ВІРАЖЫ»**.

Аўтары сцэнарыя — Лін Сіферт, Томі Свердлоу, Мікаэл Голдберг, рэжысёр — Джон Тэртлауб.

...Сын вядомага ў мінулым спрынтэра алімпійскага чэмпіёна Бэнака, Дэрыс з дзяцінства марыць аб працягу сямейнай славы, але яго спартыўныя дасягненні вельмі нязначныя, каб трапіць у алімпійскую зборную краіны. Трэнер бегуноў раіць Дэрысу заняцца іншым відам спорту, і юнак выбірае бабслей. Увесь гумар заключаецца ў тым, што героі жывуць на Ямайцы, дзе няма снегу і круглы год гарачыня. Аднак Дэрыс аказваецца напорыстым хлопцам. Ён знаходзіць двухразовага алімпійскага чэмпіёна па бабслею Эрвіна Блітцэра амерыканца, які жыве на востраве. Блітцэр ведаў некалі старэйшага Бэнака і ў памяць аб ім бярэцца падрыхтаваць каманду да Зімовай алімпіяды. Роля Блітцэра — адна з апошніх работ цудоўнага камедыйнага акцёра Джона Кэндзі («Маўклівы партнёр», «Браты Блюз», «Аднойчы пераступіўшы закон» і інш.), які памёр ад сардэчнага прыступу на здымачнай пляцоўцы.

У фільме здымаліся таксама Леон, Дуг Дуг, Руолі Льюіс.

Кінамайстры Італіі знялі мастацкую кінастужку **«ТРОЕ Ў ЛОЖКУ»**. Яе паставілі рэжысёры Мікеле Масіна Таранціні і Паола Дамінічы.

Не ў меру гаварлівая жанчына ніяк не можа адарвацца ад тэлефона, абмяркоўваючы са шматлікімі сяброўкамі падрабязнасці іх сексуальнага жыцця. Часам яна ўспамінае пра мужа, але толькі для таго, каб сказаць кепскае ў яго адрас. А ён, распаліўшыся ў нецярпенні, спачатку шукае задавальнення ў ложку служанкі, а потым з рызыкай для жыцця прабіраецца да суседкі і там ледзь не на вачах у яе мужа адводзіць душу, праяўляючы такую актыўнасць, якая яго жонцы і не снілася...

Галоўныя ролі выконваюць Уолтэр К'яры, Альда Мачоне, Карло Джуфрэ, Альда Джуфрэ.

У ЗША створана мастацкая кінакарціна **«СВЯТЫЯ І ГРЭШНІКІ»**. Аўтар сцэнарыя і рэжысёр — Пол Моунс.

У цэнтры напружаных і драматычных падзей апынуўся паліцэйскі Дэйв Пучыа, альбо Пуч, як яго называюць. Пуч выконвае заданне асаблівай важнасці — ён пранік у мафіёзныя кругі і павінен выявіць і абясшкодзіць завадатараў. Толькі Пуч пайшоў на гэтую справу не па сваёй волі. Ён служыў у паліцыі штата Юта, у нечым правініўся і апынуўся перад выбарам: ці сесці ў турму, ці выканаць заданне капітана Рэйнеке і лейтэнанта Макоуна. А яно было не з лёгкіх — увайсці ў давер да сябра дзяцінства здаравяка Бейнса, які гандлюе наркотыкамі.

У галоўных ролях — Дэміан Чапа, Джэніфер Рубін, Скот Планк, Дэймен Уістэйкер, Панчыта Гомез.

Змогуць паглядзець гледачы і аўстралійскую мастацкую кінакарціну **«ЗАГАДКІ КАХАННЯ»**. Яе пастаноўку ажыццявіў рэжысёр Дэвід Элфін. Сцэнарый напісаў Джон Кандзіл.

Героі гэтай музычнай камедыі, дзеянне якой адбываецца ў Аўстраліі ў 50-я гады, — падлеткі. Шаснаццацігадоваму Кену Рыулу і яго сябрам няма справы да сусветных крызісаў, іх цікавіць адно — тайна секса. Тэарэтычна Кен падкаваны няблага. Але вось практычна... У кампаніі, дзе працуе Кен, шмат прыгожых дзяўчат, да таго ж старэйшыя напарнікі Кена ўвесь час падштурхоўваюць хлопца да рашучых дзеянняў. Але адна справа ведаць, а другая — умець. І аднойчы вырашыўшы нарэшце расстацца з нявіннасцю, ён разам з сябрамі адпраўляецца на вуліцу з чырвонымі ліхтарамі пад назвай Калгурлі. Галоўных герояў іграюць Крэйг Эдамс, Ронда Фіндлтан, Марцін Сэкс, Ейдэн Янг.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Рэгістрацыйны нумар 1.

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*

*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 68-28-57, 68-29-16, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 68-28-54, 68-29-68, палітыкі — 32-44-12, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, сацыяльных праблем — 68-28-69, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 68-28-71. ФАКС: 32-35-05, 68-27-83.*



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 91852. Індэкс 63850.
Зак. № 3424.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12